● выдаецца са жніўня 1917 г. БЕЛАРУСКАЯ ГАЗЕТА ● кошт 3000 рублёў

9 чэрвеня 1998 г. аўторак, № 118 (23469)



# ЗВЯЗДА

## ЛЕТА СУСТРАКАЕ НАС СПЯКОТАЙ

Як паведамілі рэдакцыі ў Гідраметцэнтры рэспублікі, у чэрвені ў нашай краіне ўсталюецца даволі цёплае і нават гарачае надвор'е. У сярэднім у гэтым месяцы тэмпература будзе на 1 градус вышэй нормы. Аж да 17 чэрвеня сіноптыкі абяцаюць на Беларусі сапраўдную спякоту, якая месцамі будзе суправаджацца кароткачасовымі навальніцамі. Тэмпература ўначы — 15—20 градусаў цяпла, удзень — 27—32, а месцамі да 35 градусаў вышэй нуля.

Прадказаць надвор'е на ўсё лета айчынныя сіноптыкі згадзіліся толькі ў агульных рысах. Так, на іх думку, і ў ліпені, і ў жніўні тэмпература на тэрыторыі краіны будзе захоўвацца даволі высокай. Аднак, на думку галоўнага сіноптыка Гідраметцэнтра Беларусі Таццяны Яцковіч, сярэднямесячная тэмпература цалкам не адлюстроўвае дынаміку працякання лета. Надвор'е на тэрыторыі Беларусі не вызначаецца абсалютнай сезоннай стабільнасцю. Хутчэй за ўсё надвор'е ў чэрвені будзе спякотным з невялікімі ападкамі. Што датычыцца доўгатэрміновых прагнозаў, то яны, па вопыту сіноптыкаў, апраўдваюцца менеей чым на 50 працэнтаў. Так што, пакуль сонейка пячэ на поўную моц. А што будзе далей — нават сіноптыкам невядома.

**Сяргей КУРКАЧ.**

***ТРАГЕДЫЯ***

## НА ДАХУ ДОМА Ў МАГІЛЁВЕ ЗНОЙДЗЕНЫ ТРУП ДЗЯЎЧЫНЫ

У мінулы чацвер, дзесьці гадзін у шэсць вечара, жыхар 10-павярховага дома па вуліцы Маўчанскага ў абласным цэнтры пайшоў на дах рамантаваць тэлевізійную антэну і знайшоў там... труп 16-гадовай дзяўчыны, якая жыла ў гэтым жа доме.

Зараз вядзецца высвятленне абставінаў яе смерці. Афіцыйнае заключэнне судмедэкспертызы яшчэ не абнародавана, але, па звестках з дасведчаных крыніц, дзяўчына была згвалтавана, а потым забіта — хутчэй за ўсё, задушана. Вядома, што прыкладна ў чатыры гадзіны яе бачылі ў краме, але дадому яна не вярнулася.

Жыхары Магілёва пасля паведамлення аб гэтай трагедыі адразу ўзгадалі падобны жахлівы выпадак, які здарыўся прыкладна паўтара года таму і таксама ў раёне «Задняпроўе» абласнога цэнтра: дзяўчына таксама была згвалтавана і задушана шалікам на лесвічнай пляцоўцы шматпавярховага дома — у тым жа пад'ездзе, дзе жыла. Праўда, ва ўпраўленні крымінальнага вышуку абласнога ўпраўлення ўнутраных спраў лічаць, што ўчыненае злачынства падобна на шмат іншых, якія зарэгістраваны ў іншых гарадах краіны, а таму і казаць пра верагоднасць таго, што дзейнічаў адзін і той жа чалавек, вельмі цяжка.

**Ілона ІВАНОВА.**





***Да 200 угодкаў з дня нараджэння Адама Міцкевіча***

## СВІЦЯЗЯНСКІ ФЕСТЫВАЛЬ





Сёлетні год сапраўды стаў годам неўміручага Адама Міцкевіча. У шэрагу прыкметных падзей — і паэтычны фестываль, які толькі што прайшоў на возеры Свіцязь, што ў Навагрудскім раёне. Свята, арганізаванае Саюзам беларускіх пісьменнікаў і Саюзам тэатральных дзеячаў Беларусі пры інфармацыйнай падтрымцы «Звязды», сабрала на месцы, дзе некалі рос, квітнеў славуты міцкевічаўскі дуб, самых розных людзей. Паслухаць паэтычнае слова прыехалі старшыня калгаса «Савецкая Беларусь» двойчы Герой Сацыялістычнай Працы Уладзімір Бядуля, вядомы публіцыст, прадпрымальнік Яўген Будзінас, галоўны рэжысёр Рускага драматычнага тэатра імя А. С. Пушкіна Барыс Луцэнка, старшыня Саюза тэатральных дзеячаў Аляксей Дудараў, кіраўнік адміністрацыі Навагрудскага раёна Анатоль Ліс...

Пра Міцкевіча гаварылі, чыталі свае вершы, прысвечаныя яму, беларускія паэты Анатоль Вярцінскі, Міхась Скобла, Вольга Іпатава, Ганад Чарказян, Леанід Дранько-Майсюк, крытык Аляксей Гардзіцкі... Вёў рэй Уладзімір Някляеў.

Ганаровым госцем быў Андрэй Вазнясенскі. Яго сувязь са Свіцязянскім краем не выпадковая. Ледзь не тры дзесяцігоддзі таму Вазнясенскі напісаў цэлы шэраг вершаў, звязаных з Беларуссю, са Свіцяззю, якая захапіла творцу, запаліла яго.

*Свіцязянства світае одум,*
*Выслоўе меркнецца значэння:*
*«Двайнік-дуб, помнік прыроды рэспубліканскага значэння».*

*Міцкевіч з паннаю паглядзіўся,*
*Сюды ўбягаў.*
*Яна скупела.*
*Над імі помнік лістападзіўся,*
*Як роспіс, полымна,*
*спагадзіста, —*
*Куды Сіксцінская капэла!*

*Маліў: «Пакуль галлё галёкае,*
*схаваемся, хай дождж значэ,*
*Плячом напружаным,*
*спалоханым*
*прыдам сусветнае значэнне!»*

*Рыдалі плечы, лёг з палёгкаю*
*дубовы ліст віяланчэльны.*

***(«Ода дубу», пераклад Рыгора Барадуліна.)***

Выступаючы на паэтычным фестывалі, Андрэй Вазнясенскі гаварыў пра еднасць нацыянальных культур, пра тое, што паэзія і надалей застанецца энергетычным апірышчам духоўнасці, асветніцтва.

Свята завяршылася, раз'ехаліся яго госці, удзельнікі з гасціннага пансіяната «Свіцязь», захопленыя паэзіяй, уражаныя прыгажосцю возера Свіцязь. А што ж засталося?.. Ці не галоўны рухавік, ініцыятар свята намеснік старшыні Саюза беларускіх пісьменнікаў Віктар Жак адказвае на гэтае пытанне наступным чынам:

— Засталося спадзяванне, што паэтычны фестываль на Свіцязі стане традыцыйным, штогадовым. У наступным годзе і наша краіна будзе адзначаць 200-годдзе з дня нараджэння Аляксандра Сяргеевіча Пушкіна. Вось і ўзнікла прапанова: давайце збяромся на Свіцязі і ў гонар Пушкіна.

Да Свіцязянскага паэтычнага фестывалю спецыяльна выдадзена (выканаўца гэтага ганаровага кніжнага заказу — прыватнае выдавецтва «Пейто») кніга «Свіцязянскі вянок». Пад адной вокладкай сабраны творы Адама Міцкевіча, Рыгора Барадуліна, Андрэя Вазнясенскага. Кніга — на трох мовах: на беларускай, польскай і рускай.

**Алесь КАРЛЮКЕВІЧ.**

НА ЗДЫМКАХ: выступае Андрэй Вазнясенскі; з чытачамі — Леанід Дранько-Майсюк; у ваколіцах возера Свіцязь.

**ФОТА Яўгена ПЯСЕЦКАГА.**

## «КАЛІ НАМ ХОЧАЦЦА СТАБІЛЬНАСЦІ, ТРЭБА БОЛЬШ КУПЛЯЦЬ АЙЧЫННЫХ ТАВАРАЎ...»

**Чытачы газеты ўжо маглі пазнаёміцца з думкай кіраўніцтва Нацыянальнага банка наконт таго, як рэалізуецца ў краіне праграма неадкладных мераў па стабілізацыі валютнага рынку і абменнага курсаўтварэння рубля. Прааналізаваўшы ход яе выканання і ўважліва вывучыўшы ўсе пытанні, галоўная фінансавая ўстанова краіны выйшла з прапановай аб паскарэнні ажыццяўлення праграмы. У прыватнасці, плануецца, што ўжо да 1 жніўня ўдасца пачаць каціроўкі нацыянальнай валюты на знешніх рынках, а да 1 кастрычніка — забяспечыць адзіны курс безнаяўнага беларускага рубля на Мінскай МВБ і знешніх рынках. Апошні этап — выхад нацыянальнай валюты да канца года на адзіны курс.**

**Рэакцыя ў банкаўскіх колах на дадзеныя прапановы неадназначная. Сёння мы прадастаўляем на старонках газеты месца спецыялісту, які згадзіўся даць для «Звязды» каментарый па некаторых пытаннях, узнятых у праграме неадкладных мераў. Карэспандэнт газеты гутарыць з прафесарам БДУ, дырэктарам Цэнтра банкаўскіх даследаванняў Міхаілам КАВАЛЁВЫМ.**

— Праграма носіць назву «Праграма неадкладных мераў». А калі неадкладных, значыць маецца на ўвазе, што яны павінны рэалізоўвацца хутка і энергічна. Таму тое, што прынята рашэнне аб паскарэнні выканання неабходных мерапрыемстваў для пераходу на адзіны курс, безумоўна, правільна і станоўча адаб'ецца на эканоміцы рэспублікі. Іншая справа, якім будзе гэты курс і ці будзе ён такім, каб спрыяць эканамічнаму росту і нястратнаму экспарту, — гэта галоўнае пытанне.

**— Міхаіл Міхайлавіч, як жа выйсці на курс, які, з аднаго боку, будзе стымуляваць вытворчасць, а з другога — не будзе весці да стратнага гандлю з той жа Расіяй?**

— Трэба зыходзіць з таго, што ў нас няма мяжы з Расіяй, і істотна адрываецца абменны курс беларускага рубля да расійскага ад параўнальнага парытэту цэнаў не можа. Інакш гэта прыводзіць да таго, што расіяне, якія прадаюць нам долар за беларускія рублі па звышзаніжанаму курсу ў 68 тысяч, як часам бывае, потым маюць магчымасць на гэтыя грошы купіць вельмі шмат беларускіх тавараў. І ў нас, калі прымалася праграма неадкладных мераў, было два выйсці: або практычна амаль што падвоіць цэны наўздагон за курсам, або паспрабаваць стрымаць курс. Пайшлі па другому шляху — пачалі ўтрымліваць курс. Галоўнае пытанне — ці ўдасца вярнуць пераважную большасць канвертацыйных аперацый на 52—55 тысяч. Гэты курс больш - менш адпавядае парытэту цэн. Ён будзе спрыяць экспарту.

**— Адным з галоўных інструментаў утрымання курса выбраны кантроль за кольскасцю беларускіх рублёў у нерэзідэнтаў...**

— Што такое беларускія рублі ў нерэзідэнтаў? Гэта азначае, што мы нешта пазычылі, але заплацілі за пазычанае не таварам, не сапраўднай валютай, а нашымі ўнутранымі рублямі. Здаецца, гэта добра, што нам пазычылі тавары. З другога боку, беларускія рублі — абавязацельствы Нацыянальнага банка, і ў любую мінуту, тыя, хто валодае імі за мяжой, могуць прад'явіць іх або для абмену на долары і выклікаць рэзкае падзенне курса беларускага рубля, або затаварваць тавары. І гэта натуральна, што кантралюецца сума пазыкі, на якую мы ўзялі тавараў у Расіі, ва Украіне і іншых рэспубліках. І звычайна, калі заключаецца пагадненні па гандлю ў нацыянальных валютах, абедзве дзяржавы ўсталёўліваюць адна другой ліміты, дамаўляюцца аб механізме кампенсацыі ў выпадку дысбалансу тавараў. Таму, думаю, гэты інструмент выбраны правільна і ў далейшым будзе адным з галоўных у рэгуляванні курса на знешніх рынках. Калі золатавалютных рэзерваў у Нацбанка будзе дастаткова, каб у любую мінуту выкупіць наш доўг, то тады мы зможам утрымліваць курс на тым узроўні, на якім ён будзе знаходзіцца і ўнутры рэспублікі.

**— Што датычыцца адзінага курса ўнутры рэспублікі. Міхаіл Міхайлавіч, некаторыя спецыялісты лічаць, што на яго можна перайсці ўжо сёння.**

(Заканчэнне на 2-й стар.)

**КУРСЫ АБМЕНУ НАЯЎНЫХ ВАЛЮТ У КАМЕРЦЫЙНЫХ БАНКАХ І АФІЦЫЙНЫ КУРС, УСТАНОЎЛЕНЫ НАЦЫЯНАЛЬНЫМ БАНКАМ НА 8 ЧЭРВЕНЯ 1998 г. (па стану на 15.00)**

| Назва банка | USD | | DM | | RUR | | Тэлефон для даведак |
|---|---|---|---|---|---|---|---|
| | Купля | Продаж | Купля | Продаж | Купля | Продаж | |
| Мінск (0-17) | | | | | | | |
| Белпрамбудбанк | 48000 | 49000 | 26000 | 27700 | 7400 | 7900 | 233-2110 |
| Мінсккомплексбанк | 48500 | 49000 | 27300 | 27700 | 7800 | 7920 | 228-2047 |
| Пріорбанк | | 49000 | 27300 | 27700 | 7800 | 7920 | 228-2047 |
| Нацыянальны банк РБ (курс для безнаяўных разлікаў) | 36120.00 | | 20320.68 | | 5830.00 | | Курс на 9.06.1998 |
| Цэнтрабанк Расіі | 6.1700 | | 3.4733 | | | | |

*На працягу дня ўстаноўленыя курсы могуць мяняцца, курсы галаўнога ўпраўлення банка могуць неістотна адрозніваацца ад курсаў, устаноўленых у абменных пунктах. Інфармацыя атрымана ад галаўных упраўленняў негандлёвых аперацый адпаведных банкаў.*

**Агенцтва ГРАЎЦОВА.**

| | | | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|
| Рынкавы намінальны курс (міжбанкаўскі рынак) | 66500 | 68000 | 37442 | 38296 | 10748 | 10994 | |
| Рэальна абгрунтаваны намінальны курс (прыблізна) | 59000 | 59500 | 33200 | 33700 | 9300 | 9800 | |

# А. Р. ЛУКАШЭНКА ПРЫНЯЎ С. С. ЛІНГА І ПАГУТАРЫЎ З С. У. КІРЫЕНКАМ

8 чэрвеня 1998 г. Прэзідэнт Рэспублікі Беларусь А.Р.Лукашэнка прыняў прэм'ер-міністра С.С.Лінга.

Як паведаміла прэс-служба кіраўніка беларускай дзяржавы, прэм'ер-міністр далажыў прэзідэнту аб гатоўнасці да правядзення 10 чэрвеня пасяджэння Выканкама Саюза Беларусі і Расіі пад старшынствам Старшыні Выканкама — прэм'ер-міністра Расійскай Федэрацыі С.У.Кірыенкі.

С.С.Лінг праінфармаваў прэзідэнта краіны аб дамоўленасці з прэм'ер-міністрам Украіны В.П.Пуставойценкам правесці пасяджэнне беларуска-ўкраінскай камісіі, дзе плануецца разгледзець ход выканання Пратакола і Пагаднення аб развіцці тавараабароту паміж дзвюма краінамі, падпісаных у ходзе візіту ўкраінскага прэм'ер-міністра ў Рэспубліку Беларусь.

С.С.Лінг таксама далажыў кіраўніку дзяржавы аб асноўных выніках свайго візіту на Кіпр.

У ходзе сустрэчы абмеркаваны дзеянні ўрада па кантролю за ходам нарыхтоўкі кармоў і падрыхтоўкі да ўборкі ўраджаю 1998 года. Прэзідэнт адобрыў правядзенне ўрадам рэспубліканскай селектарнай нарады па гэтых пытаннях 11 чэрвеня гэтага года.

* * *

Па ініцыятыве прэм'ер-міністра Расійскай Федэрацыі С.У.Кірыенкі адбылася яго тэлефонная размова з Прэзідэнтам Рэспублікі Беларусь А.Р.Лукашэнкам.

Абмеркаваны пытанні правядзення намечанага на 10 чэрвеня г.г. у г.Мінску пасяджэння Выканкама Саюза Беларусі і Расіі.

* * *

У сярэдзіне тыдня Прэзідэнт Рэспублікі Беларусь А.Р.Лукашэнка мае намер наведаць прадпрыемствы мясной і малочнай прамысловасці г.Мінска і на прыкладзе мінскіх прадпрыемстваў разгледзець стан і меры па далейшаму паглыбленню перапрацоўкі зыходнай сыравіны і пашырэння асартыменту прадукцыі, даступнай розным слаям насельніцтва, што выпрацоўваецца ў рэспубліцы.

**БЕЛТА.**

## РАБОЧЫ ТЫДЗЕНЬ ПРЭЗІДЭНТА

Гэты рабочы тыдзень Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь А.Р.Лукашэнкі ў асноўным будзе прысвечаны вырашэнню пытанняў міждзяржаўнага супрацоўніцтва, перш за ўсё з Расійскай Федэрацыяй. Адначасова ў цэнтры ўвагі прэзідэнта будзе знаходзіцца вырашэнне эканамічных праблем рэспублікі.

У аўторак прэзідэнту Беларусі ўручыць даверчыя граматы новы пасол Рэспублікі Польшча.

У сярэдзіне тыдня запланаваны сустрэчы А.Р.Лукашэнкі з прэм'ер-міністрам Расійскай Федэрацыі С.У.Кірыенкам, у ходзе якіх намечана абмеркаваць пытанні двухбаковага супрацоўніцтва ў рамках Саюза Беларусі і Расіі.

У сераду кіраўнік дзяржавы правядзе нараду па абмеркаванню парадку выканання Закона Рэспублікі Беларусь ад 15 снежня 1997 г. «Аб унясенні змяненняў у пункт 3 раздзела 111 «Заключныя палажэнні» Закона Рэспублікі Беларусь «Аб унясенні змяненняў і дапаўненняў у Крымінальна-працэсуальны і Крымінальны кодэксы Рэспублікі Беларусь».

У пятніцу А.Р.Лукашэнка сустрэнецца са Старшынёй Веча Рэспублік Саюзнай Скупшчыны Югаславіі С.Божавічам. У гэты ж дзень прэзідэнт прыме са справаздачай віцэ-прэм'ера ўрада, прадстаўніка Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь у органах Саюза В.Б.Далгалёва.

На працягу тыдня А.Р.Лукашэнка прыме са справаздачамі кіраўнікоў Адміністрацыі і Кіраўніцтва справамі Прэзідэнта, дзяржсакратарыята Савета бяспекі.

**БЕЛТА.**

# Парламент рыхтуецца да міжнароднай канферэнцыі

8 чэрвеня ў Савеце Рэспублікі Нацыянальнага сходу Беларусі пад кіраўніцтвам Паўла Шыпука адбылася нарада рабочай групы па падрыхтоўцы міжнароднай парламенцкай канферэнцыі «Еўропа — наш агульны дом», якую мяркуецца правесці ў кастрычніку гэтага года ў Мінску. Першапачаткова ініцыятарам мерапрыемства выступіў беларускі парламент, а ўпершыню прапанова прагучала на 52-й сесіі Генеральнай Асамблеі ААН у канцы мінулага года. Пазней ідэю падтрымаў прэзідэнт Аляксандр Лукашэнка. Нядаўна да ініцыятывы таксама далучылася Расія ў межах Парламенцкага Сходу Саюза дзвюх дзяржаў. Вынікі нарады на прэс-канферэнцыі ў панядзелак падвялі Павел Шыпук і Мікалай Чаргінец.

Плануецца вынесці на канферэнцыю тры галоўныя тэмы. Першы блок пытанняў будзе датычацца шляхоў пераадолення магчымасці глабальнай катастрофы, звязанай з верагодным залпавым выкідам захаванай хімічнай зброі ў Балтыйскім і Паўночным морах. Як вядома, пасля заканчэння другой сусветнай вайны Савецкі Саюз, Вялікабрытанія і ЗША затапілі ў гэтых морах больш за 300 тысяч трафейных хімічных боепрыпасаў. Тады гэта здавалася аптымальным варыянтам, але цяпер, праз 50 гадоў, у выніку эрозіі разгерметызацыя снарадаў і бомбаў можа выклікаць забруджванне басейна Балтыйскага і Паўночнага мораў смяротным іпрытам і люізітам. Вучоныя прадказваюць магчымасць глабальнай катастрофы ўжо праз чатыры гады. Такім чынам, перад чалавецтвам стаіць вострая праблема пераадолення падобнай магчымасці, якую неабходна вырашаць тэрмінова.

Другая тэма, на якой арганізатары канферэнцыі хочуць засяродзіць увагу ўдзельнікаў, — барацьба з нелегальнай міграцыяй, распаўсюджваннем наркотыкаў і зброі. Гэтыя праблемы ў апошнія гады сталі вельмі актуальнымі як для Беларусі, так і для Еўрапейскага саюза, іншых дзяржаў Еўропы, якія сутыкнуліся з сапраўдным патокам бежанцаў і нелегальных мігрантаў з Афрыканскага і Азіяцкага рэгіёнаў. Разам з тым ідзе распаўсюджванне наркотыкаў, зброі і СНІДу. Зразумела, эфектыўна змагацца з гэтымі «хваробамі» можна толькі пры ўмове аб'яднання магчымасцяў розных дзяржаў. Трэці блок пытанняў прадугледжвае гутарку пра прававыя, эканамічныя і этычныя праблемы, звязаныя з пашырэннем НАТО на Усход.

Удзельнікі нарады абмеркавалі парадак падрыхтоўкі да канферэнцыі, вызначылі ведамствы Беларусі і Расіі і канкрэтных асоб, якія будуць рыхтаваць частку дакладаў, вырашылі іншыя рабочыя пытанні. Чакаецца, што канферэнцыя пройдзе ў Нацыянальнай акадэміі навук. На яе плануецца запрасіць прадстаўнікоў з усіх еўрапейскіх краін, шэрагу міжнародных арганізацый, дзейнасць якіх мае дачыненне да тэм канферэнцыі.

**Юрась ЛЯШКЕВІЧ.**

## У МІНСК ПРЫБЫВАЕ ПАРЛАМЕНЦКАЯ ДЭЛЕГАЦЫЯ ЮГАСЛАВІІ

Афіцыйная дэлегацыя Скупшчыны Саюзнай Рэспублікі Югаславіі, якая прыбывае ў Мінск 9 чэрвеня па запрашэнню Савета Рэспублікі Нацыянальнага сходу Беларусі, правядзе шэраг сустрэч з вышэйшымі службовымі асобамі нашай краіны.

У дзень свайго прыбыцця на беларускую зямлю Старшыня Веча рэспублік Скупшчыны Срджа Божавіч і асобы, якія суправаджаюць яго, будуць прыняты Паўлам Шыпуком і Анатолем Малафеевым. 10 чэрвеня члены югаслаўскай дэлегацыі наведаюць Мінскі трактарны завод, акцыянернае таварыства «Атлант», канцэрн «Белрэсурсы», а таксама агледзяць мемарыяльны комплекс «Хатынь».

У чацвер члены парламенцкай дэлегацыі СРЮ сустрэнуцца з прэм'ер-міністрам Беларусі Сяргеем Лінгам і міністрам замежных спраў Іванам Антановічам.

Прэзідэнт Беларусі Аляксандр Лукашэнка прыме Срджу Божавіча і асоб, якія суправаджаюць яго, раніцай 12 чэрвеня. У гэты ж дзень адбудзецца прэс-канферэнцыя членаў югаслаўскай дэлегацыі па выніках візіту.

**БЕЛТА.**

## «КАЛІ НАМ ХОЧАЦЦА СТАБІЛЬНАСЦІ, ТРЭБА БОЛЬШ КУПЛЯЦЬ АЙЧЫННЫХ ТАВАРАЎ...»

**(Заканчэнне. Пачатак на 1-й стар.)**

— Тут трэба лічыць. Энерганосьбіты выкарыстоўваюць усе — і насельніцтва, і экспарцёры. І калі яны маюць крыху больш танную энергію, гэта адбіваецца і на ўсіх цэнах. (І, наогул, калі б мы ў саюзе Беларусі  і Рассіі своечасова ўсвядомілі, што ўнутраныя цэны на газ і нафту павінны быць на працэнтаў за 30 — 40 ніжэй сусветных, нашы эканомікі ўжо даўно былі б на пад'ёме, і не трэба было б думаць як мацаваць адзінства СНД). Мае разлікі паказваюць, што адначасовы пераход да аплаты энерганосьбітаў па адзінаму рыначнаму курсу прывядзе да адначасовай інфляцыі ў 5 працэнтаў (за кошт павышэння рублёвага кошту энерганосьбітаў), і потым з улікам высокай энергаёмістасці нашай прамысловасці (калі кошт энергіі ўвойдзе ў кошт транспарту, прадуктаў харчавання і г. д.), прыйдзе другая хваля інфляцыі — прыкладна на 3 працэнты. Падкрэслю: гэта мінімум. А яшчэ плюс дзесьці накопленая інфляцыя, псіхалагічны эфект. Таму Нацыянальны банк спрабуе знайсці такую траекторыю, каб паспрабаваць без істотнай інфляцыі перайсці на адзіны курс. І гэта магчыма. У далейшым, калі мы будзем заключаць з іншымі дзяржавамі дагаворы аб аплаце тавараў у нацыянальных валютах (напрыклад, такі дагавор мела б сэнс заключыць з Польшчай), трэба загадзя ўстанаўліваць ліміты на разлікі ў нацыянальных валютах. Тады не будзе катастрафічных наступстваў, якія назіраліся ў сакавіку.

**— Зразумела, што адзіны курс не будзе пастаянным, калі мы выбралі мадэль плаваючага курса. Ад чаго ён будзе залежаць?**

— У першую чаргу ад попыту на долары. А попыт вызначаецца адным — колькасцю беларускіх рублёў, якія прад'яўлены для абмену на долары, як сродку зберажэння, як сродку куплі імпартных тавараў. Таму, каб курс і далей быў стабільным, патрэбна зрабіць дзве рэчы: першае, насельніцтва павінна паверыць у беларускі рубель, і другое — неабходна прывесці імпарт у адпаведнасць з экспартам. Калі мы хочам купляць тавараў больш, чым прадаваць, то ясна, што курс падаў, падае і будзе падаць. Пры тых невялікіх мытных пошлінах, якія існуюць сёння, раўнаважкі рыначны курс будзе адзін, а калі мы павысім у два разы, то ён стане ўжо зусім іншым. Трэба выбіраць і помніць адно: калі мы хочам стабільнасці, трэба больш купляць айчынных тавараў. Узгадваецца прыклад з гісторыі ЗША: тады Джордж Вашынгтон у дзень свайго выбрання, у 1789 годзе, быў апрануты ў касцюм з тканіны ўласнай вытворчасці, каб проста і выразна даць сваім пераемнікам і ўсім будучым заканатворцам памятны ўрок таго, якім чынам развіваць дабрабыт краіны. І трэба каб кожны памятаў, што калі ён купляе замежны тэлевізар, дык пазбаўляе працы свайго таварыша на «Гарызонце».

**Ігар ШЧУЧЭНКА.**

## СЁННЯ

### СОНЦА

| | Усход | Захад | Даўжыня дня |
|---|---|---|---|
| Мінск – | 4.40 | 21.36 | 16.56 |
| Віцебск – | 4.22 | 21.34 | 17.20 |
| Магілёў – | 4.29 | 21.25 | 16.56 |
| Гомель – | 4.35 | 21.15 | 16.40 |
| Гродна – | 4.56 | 21.51 | 16.55 |
| Брэст – | 5.06 | 21.41 | 16.35 |

### МЕСЯЦ

**Поўня 10 чэрвеня**

***З 19.59 — 16-ыя месяцавыя суткі. Месяц — у сузор'і Стральца.***

### ІМЯНІНЫ

**ПР. Кіпрыяна, Іаана**

**К. Ахрэма, Феліцыяна**

### НАДВОР'Е

Сёння ўдзень па рэспубліцы захаваецца пераменная воблачнасць, на большай частцы тэрыторыі кароткачасовыя дажджы, навальніцы, у асобных раёнах град. Тэмпература паветра ў Гродне — 23—25, Мінску — 27—29, Гомелі — 28—30, Брэсце, Магілёве — 29—31, Віцебску — 30—32 градусы цяпла.

У наступныя двое сутак месцамі пройдуць кароткачасовыя дажджы, навальніцы. Тэмпература ўначы — 15—20, удзень — 27—32, 11-га месцамі да 34 градусаў вышэй нуля.

## ДА ВЕДАМА ЧЛЕНАЎ САВЕТА РЭСПУБЛІКІ НАЦЫЯНАЛЬНАГА СХОДУ РЭСПУБЛІКІ БЕЛАРУСЬ

11 чэрвеня з 10.00 да 18.00 у Авальнай зале Дома ўрада адбудуцца парламенцкія слуханні па пытанню «Дзяржаўная нацыянальная праграма «Культура» і ўдасканаленне заканадаўчай базы галіны ў Рэспубліцы Беларусь».

12 чэрвеня з 10.00 да 12.00 у Авальнай зале Дома ўрада адбудзецца сумеснае пасяджэнне Савета Рэспублікі і Палаты прадстаўнікоў Нацыянальнага сходу Рэспублікі Беларусь для пытанняў членаў Савета Рэспублікі і дэпутатаў Палаты прадстаўнікоў і адказаў урада.

12 чэрвеня ў 15.00 у зале пасяджэнняў Савета Рэспублікі прадоўжыць работу чацвёртая сесія Савета Рэспублікі Нацыянальнага сходу Рэспублікі Беларусь.



# МІНСК І ПРАГА СТАЛІ БЛІЖЭЙ

**У мінулую пятніцу нацыянальная кампанія «Белавія» пачала палёты сваіх самалётаў у Чэхію. Гэта яе 12-я рэгулярная міжнародная авіялінія. Першым рэйсам разам з пасажырамі ў Прагу для ўдзелу ва ўрачыстасцях з гэтай нагоды вылецела дэлегацыя Дзяржаўнага камітэта грамадзянскай авіяцыі і грамадскасці, група прадстаўнікоў сродкаў масавай інфармацыі. Прапануем рэпартаж нашага спецыяльнага карэспандэнта з борта самалёта.**

З кіраўніком дэлегацыі, намеснікам старшыні Дзяржаўнага камітэта Васілём Ермаковым перад вылетам з Мінска пагаварыць не ўдалося. У самалёце, на маё вялікае здзіўленне, яго таксама не знайшоў. Убачыў яго ўжо толькі ў пакоі для ганаровых гасцей пражскага міжнароднага аэрапорта, куды запрасілі прыляцеўшых з Беларусі. Там Васіль Іванавіч прынародна прызнаў, што ён з вялікім задавальненнем правёў паўтары гадзіны ў паветры за штурвалам самалёта.

Я спытаў, навошта яму, чыноўніку высокага рангу, спатрэбілася садзіцца ў крэсла пілота. Ермакоў адказаў, што ён час ад часу выконвае палёты па розных маршрутах. Гэта дазваляе яму не толькі падтрымліваць форму, але і быць у курсе праблем працы пілотаў. Паскардзіўся, што асноўная работа не дазваляе яму лятаць часцей. Але, пакуль урачы дапускаюць да палётаў, з небам не развітваецца.

Адкрыццё новай лініі для любой авіякампаніі, нават самай салíднай, вядомай і багатай, заўсёды вялікая падзея. А для «Белавія», якая афіцыйна была створана на базе былога Беларускага аб'яднання грамадзянскай авіяцыі 5 сакавіка 1996 г., гэта ўвогуле важная веха і адначасова вялікае свята. Авіятары пастараліся, каб пасажыры першага рэйса ў Прагу ў поўнай меры падзялілі іх радасць і поспех.

Звычайна падрыхтоўка да адкрыцця лініі займае некалькі месяцаў. Беларускія авіятары, як паведаміў журналістам Анатоль Гусараў, генеральны дырэктар «Белавія», усе неабходныя прыгатаванні правялі ў сціслыя тэрміны. Канчатковае рашэнне аб адкрыцці маршрута на Прагу было прынята ў сярэдзіне сакавіка г. г., а 5 чэрвеня яно ўжо адбылося.

Тут не апошнюю ролю, па словах Анатоля Мікалаевіча, адыгралі добразычлівыя адносіны чэшскіх калег з пражскага аэрапорта. Дзякуючы іх падтрымцы, дагаворы на тэхнічнае абслугоўванне самалётаў, іх запраўку і іншае даволі хутка былі заключаны, адкрылася і прадстаўніцтва «Белавія».

Ужо падпісана пагадненне з чэшскай авіякампаніяй. У ім ёсць дамоўленасць аб так званым стыкаванні рэйсаў. Цяпер пасажыры «Белавія» ў Празе без доўгага чакання могуць перасесці на самалёты іншых маршрутаў, напрыклад, на Парыж.

Размова з А. Гусаравым выйшла за межы канкрэтнай падзеі. На пытанне карэспандэнта «Звязды» наконт заявы кіраўніка Нацбанка аб увядзенні ўвосень адзінага курса рубля да долара, Анатоль Мікалаевіч сказаў, што авіятары вельмі чакаюць гэтага рашэння і звязваюць з ім вялікія надзеі. Бо «Белавія» разлікі з замежнымі партнёрамі вядзе ў валюце, расійскіх рублях, і адзіны курс долара, безумоўна, станоўча адаб'ецца на рабоце авіякампаніі.

Сярод пасажыраў першага рэйса быў Часовы Паверааны ў справах Чэшскай Рэспублікі Алеш Фойцік. Ён лічыць авіялінію паміж Мінскам і Прагай значным крокам у далейшым развіцці шматгранных адносін паміж Чэхіяй і Беларуссю, якія ў апошнія гады набылі стабільны характар. Плённа развіваецца эканамічнае супрацоўніцтва. Аб гэтым сведчыць мноства фактаў. Дыпламат назваў два з іх: прадастаўленне чэшскім бокам БелАЗу крэдыту на суму 119 мільёнаў долараў ЗША і буйны праект будаўніцтва ў Беларусі фабрыкі па выпуску 500 тысяч швейных машын у год.

Гандлёвы абарот штогод, па словах А. Фойціка, расце на дзесяткі працэнтаў. Чэхія пастаўляе нам транспартныя сродкі ў і легкавыя аўтамабілі, у прыватнасці, трамваі, санітарную тэхніку, тавары народнага спажывання і, безумоўна, сусветна вядомае піва. Асноўныя групы беларускага экспарту — прадукты хімічнай прамысловасці, штучныя і натуральныя валокны, машыны і абсталяванне.

Сёння на рынку Беларусі працуюць многія вядомыя чэшскія фірмы. Свае прадстаўніцтва ў Мінску, напрыклад, адкрыла буйное акцыянернае таварыства «ЧКД», якое спецыялізуецца на выпуску транспартных сродкаў. З яго тэхнічнай дапамогай наш канцэрн «Амкадор» вельмі блізка падышоў да выпуску тралейбусаў.

Цікавым абяцае быць сумесны праект бабруйскага камбіната «Белшына» і чэшскага АТ «Барум» па вытворчасці шын для камплектацыі аўтамабіляў «Шкода».

Кансорцыум «Істмаркет» разам з беларускімі прадпрыемствамі працуе над укараненнем энергазберагальных тэхналогій. Ёсць цікавыя задумкі і прапановы аб супрацоўніцтве ў будаўніцтве аўтадарог, пашыве абутку, выпуску тэкстыльных вырабаў, вытворчасці піва, перапрацоўцы прадукцыі сельскай гаспадаркі і г. д.

Спрыяе дзелавым кантактам даволі грунтоўная дакументальна-прававая база, у першую чаргу пагадненне аб гандлёва-эканамічным і навукова-тэхнічным супрацоўніцтве, пазбяганні двайнога падаткаабкладання, узаемнай абароне і захаванні інвестыцый, узаемных бязвізавых паездках грамадзян Беларусі і Чэхіі.

Карацей, адкрыццё рэгулярнага рэйса Мінск — Прага — Мінск (кожныя панядзелак і пятніцу) было прадвызначана самім ходам развіцця супрацоўніцтва як з Чэхіяй, так і ўвогуле з рэгіёнам Цэнтральнай Еўропы. Таму, відаць, не выпадкова пасол Уладзімір Бельскі ў час урачыстасці ў пражскім аэрапорце ў сваім прывітальным слове дазволіў сабе прывесці гістарычную аналогію. На яго думку, Францішак Скарына, які шмат зрабіў дзеля ўсталявання духоўнага моста паміж беларускім і чэшскімі народамі, быў бы вельмі задаволены з'яўленнем паветранага моста паміж дзвюма славянскімі дзяржавамі.

Пачатак лета быў невыпадкова выбраны для першага палёту ў сталіцу Чэхіі. Злата Прага — адзін з найпрыгажэйшых, і, што важна, адносна танных гарадоў Еўропы. Таму з надыходам сезона водпускаў тут рэзка павялічваецца колькасць турыстаў. Пракаменціраваць значэнне новага рэйса я папрасіў Міхаіла Шаршавіцкага, намесніка міністра спорту і турызму.

— Гэтая авіялінія вельмі перспектыўная для развіцця турызму. Славутыя мясціны, шматлікія старадаўнія замкі, вядомыя курорты (дастаткова назваць хоць бы Карлавы Вары) вабяць сюды сотні тысяч людзей. З Прагі можна яшчэ наладзіць паездкі ў суседнія Венгрыю, Аўстрыю, Славакію, Германію, самалётамі чэшскай кампаніі без асаблівых праблем лятаць у Туніс, Лівію, Сірыю.

Важнае значэнне новага маршрута яшчэ і ў тым, што ён дазваляе прыцягваць у Беларусь турыстаў з Цэнтральна-еўрапейскага рэгіёна. Рэальным становіцца ланцужок Прага — Мінск (знаходжанне некалькі дзён у Беларусі) — іншыя краіны. Аэрапорт «Мінск-2» можа стаць выгадным транзітным пунктам і ўзяць перавесці на сябе абслугоўванне часткі пасажыраў, якія традыцыйна лятаюць праз Маскву ці Варшаву, — гаворыць Міхаіл Васільевіч.

Назад у Мінск з намі ляцела група беларускіх парламентарыяў, грамадскіх дзеячаў, якія вярталіся з Сусветнага кангрэса славян. Ён быў прысвечаны юбілею першага славянскага з'езда, які 150 гадоў таму адбыўся ў Празе. Для знакамітага артыста і дэпутата Мікалая Яроменкі гэта паездка была звязана з прыемнымі ўспамінамі. 20 гадоў таму ён ў Празе здымаўся ў якасці галоўнага героя ў адной з чэхаславацкіх стужак.

Натуральна, гутарка не магла не зайсці пра работу кангрэса. Ён, паведамілі яго ўдзельнікі, праходзіў у складанай і напружанай абстаноўцы. Відаць, ёсць у свеце магутныя сілы, якія не хочуць згоды і аб'яднання славян. Гэта, па словах беларускіх прадстаўнікоў, яскрава праявілася ў адносінах да лідэраў асобных славянскіх краін, якія абыякава паставіліся да гэтага форуму.

Пасланне папы рымскага для ўдзельнікаў кангрэса з'явілася нечым накшталт грому сярод яснага неба. Папа моцна абурыўся і заявіў, што ён, як славянін, асуджае дзеянні тых кіраўнікоў славянскіх дзяржаў, якія не падтрымалі ідэі правядзення славянскага кангрэса і не адрэагавалі належным чынам на яго адкрыццё.

Адчуваеце, які гарачы подых вялікай палітыкі нечакана ўварваўся ў святочную сяброўскую атмасферу салона самалёта?

З Прагі ў Мінск ляцелі іншыя пасажыры. Сярод іх былі два чэхі, якія накіроўваліся ў Беларусь, каб на месцы высветліць, якая канкрэтна гуманітарная дапамога патрэбна менавіта цяпер пацярпелым ад Чарнобыля.

**Леанід ЛАХМАНЕНКА.**

## ЯК РАМОНТ ВОДАПРАВОДА І КАНАЛІЗАЦЫІ ПАГРАЖАЕ ПЕРАРАСЦІ Ў БУЙНЫ МІЖНАРОДНЫ СКАНДАЛ

**Учора ў 14 гадзін пасол ЗША ў Мінску Дэніэл Спекхард сабраў у Нацыянальным прэс-цэнтры вялікую колькасць беларускіх і замежных журналістаў, замежных дыпламатаў для заявы наконт сітуацыі, якая склалася апошнім часам вакол комплексу дзяржаўных дач «Дразды».**

Фармальна ўсе паслы ў краіне знаходжання карыстаюцца роўнымі правамі, іх з аднолькавай увагай выслухоўваюць улады. Але выказванні паслоў вялікіх дзяржаў, асабліва ЗША, заўсёды значаць і важаць больш за словы дыпламатаў высокіх рангаў з іншых краін. Таму, відаць, акрэдытаваныя ў Беларусі паслы, рэзідэнцыі якіх знаходзяцца ў дачным комплексе «Дразды», упаўнаважылі Д. Спекхарда выступіць па пытанню, якое іх хвалюе.

Сутнасць праблемы ў тым, што гэтыя паслы вясной атрымалі паведамленні аб неабходнасці да пэўнага тэрміну перанесці з «Драздоў» іх рэзідэнцыі ў іншыя месцы. Прычына — неабходнасць капітальнага рамонту ўсёй інфраструктуры комплексу. Гэта выклікала абурэнне сярод дыпламатаў і членаў іх сем'яў. Яны неаднаразова ўздымалі гэта пытанне перад уладамі на розных узроўнях, у прыватнасці, перад МЗС краіны. Але цяпер праз пасла ЗША вырашылі выказаць свой пункт погляду на сітуацыю ў «Драздах».

Д. Спекхард адзначыў, што яна можа нанесці ўрон іміджу Беларусі ў свеце. Ён падкрэсліў, што яго заклапочанасць падзяляюць іншыя члены дыпкорпуса ў Мінску. Згодна з Венскай канвецыяй аб дыпламатычных адносінах, нагадаў Д. Спекхард, рэзідэнцыі кіраўнікоў дыпмісіі з'яўляюцца неад'емнай часткай дыпламатычнай установы. Урад краіны яе знаходжання не мае права патрабаваць выезду пасла з рэзідэнцыі супраць яго жадання. А Беларусь, адзначыў амерыканскі пасол, падпісала Венскую канвенцыю, іншыя міжнародныя дакументы на гэту тэму. Д. Спекхард заклікаў наш урад выконваць гэтыя пагадненні, інакш міжнародная рэпутацыя Беларусі сур'ёзна пацерпіць. Пасля заканчэння «халоднай вайны» гэта будзе першы падобны інцыдэнт, які можа адмоўна паўплываць на эканамічныя і гандлёвыя адносіны з іншымі краінамі, сказаў пасол.

Д. Спекхард не пагадзіўся з тым, што рэканструкцыя сістэм жыццезабеспячэння абавязкова павінна суправаджацца высяленнем дыпламатаў. Ён выказаў згоду нават вытрымаць часовае адключэнне вады і электрычнасці, і нават разам з іншымі дыпламатамі аказаць пэўную тэхнічную і фінансавую дапамогу. Пасольства ЗША ў рамонт рэзідэнцыі ўжо ўклала 800 тыс. долараў. Праблема можа быць станоўча вырашана прэзідэнтам Аляксандрам Лукашэнкам, калі яму стане вядома інфармацыя аб сітуацыі ў «Драздах» у поўным аб'ёме, заявіў пасол ЗША.

У той жа дзень МЗС Беларусі выказаў шкадаванне шэрагу замежных дыпламатычных місій па прычыне нязручнасцяў, якія ўзніклі з-за неабходнасці пераносу рэзідэнцыі іх кіраўнікоў з «Драздоў».

Паводле інфармацыі МЗС, будаўніцтва комплексу «Дразды» вялося з 1946 па 1948 год. Тэрмін эксплуатацыі водаправода, як і іншых інжынерных збудаванняў, перавысіў трыццаць гадоў. Ён знаходзіцца ў дрэнным стане і не можа забяспечыць спажыўцам вады адпаведнай якасці. Электразабеспячэнне ажыццяўляецца ад трансфарматарнай падстанцыі, магутнасць якой таксама не задавальняе патрэбнасці. Каналізацыя ідзе праз лакальныя ачышчальныя збудаванні (адстойнікі), якія забруджваюць глебу, падземныя воды і прылеглыя вадаёмы. Цэнтральная каналізацыйная сетка адсутнічае.

Таму прадастаўленне комплексу «Дразды» пад рэзідэнцыі паслоў у 1991—1993 гадах было часовай з'явай. Сёння ёсць магчымасць для больш камфортнага іх размяшчэння. Гэта кватэры з плошчай у 200, 300 і нават 400 кв. м у доме па вул. Чырвонаармейскай, будынкі ва ўрадавым комплексе «Крылова». Для пасольстваў, якія жадаюць пабудаваць уласныя рэзідэнцыі, выдзелены зямельныя ўчасткі ў раёне пасёлка «Піянерскі» па праспекце П. Машэрава.

Аднак гэту інфармацыю паслы мелі раней.

Яна не задаволіла дыпламатаў. І моцныя заявы аб верагодным пагаршэнні адносінаў з шэрагам краін, паслоў якіх высяляюць з «Драздоў», напрыклад Францыі, ФРГ, Італіі, Расіі, Індыі, Японіі, Турцыі, наводзіць на думку, што лёгка гэту ўзнікшую літаральна на роўным месцы праблему не зняць. Прыйдзецца абодвум бакам пайсці на кампрамісы.

Капітальны рамонт водаправода і каналізацыі пагражае капітальна сапсаваць адносіны з шэрагам вядучых краін свету.

**Леанід ЛАХМАНЕНКА.**

### *ГАЛОЎНЫ РЭДАКТАР «МІНСКАЙ ПРАЎДЫ» СТАЎ ЗАСЛУЖАНЫМ ДЗЕЯЧАМ КУЛЬТУРЫ*

Указам прэзідэнта краіны Аляксандра Лукашэнкі ганаровае званне «Заслужаны дзеяч культуры Рэспублікі Беларусь» прысвоена галоўнаму рэдактару газеты «Мінская праўда» Шломе Мікалаю Аляксандравічу. Гэтага звання ён удастоены за высокі прафесіяналізм і значны ўклад у развіццё беларускай культуры.

**БЕЛТА.**

***«Звяздоўцы» віншуюць свайго былога супрацоўніка Мікалая Шлому з высокай адзнакай яго працы і зычаць новых творчых здабыткаў.***

### Грошы аказаліся фальшывымі

У час мытнага дагляду цягніка Масква—Вільнюс на станцыі Ашмяны мытнікі затрымалі жыхара Літвы, які правозіў без дэкларавання замежную валюту. Высветлілася, што сем купюр вартасцю па сто нямецкіх марак аказаліся фальшывымі. Цяпер міліцыі прыйдзецца займацца пошукам іншаземца.

**Віктар БЫКАЎ.**

### ЧЭМПІЁНКАМ СВЕТУ ПАТРАБУЕЦЦА ГЕНЕРАЛЬНЫ СПОНСАР!

**Гэта не жарт, а сённяшняя рэальнасць. Размова ў дадзеным выпадку ідзе пра зборную Беларусі па мастацкай гімнастыцы, якая за апошні месяц стала чэмпіёнам свету ў камандных спаборніцтвах у Іспаніі, і ў гэтай жа намінацыі першай на першынстве кантынента ў Партугаліі. Дадайце сюды золата і бронзу ў асобных практыкаваннях Яўгеніі Паўлінай і Юліі Раскінай і атрымаецца, што нашым дзяўчатам цаны няма.**

Аднак адных патрыятычных пачуццяў і вялікага жадання для паспяховых выступленняў мала. Патрэбна яшчэ валюта, каб без «пракладных» дабірацца да месца спаборніцтваў і назад. І, наогул, калі ты сусветны лідэр — значыць не павінен хадзіць з працягнутай рукой за добрымі дзядзькамі.

Тэма дзяржаўнай падтрымкі і спонсарства вельмі востра абмяркоўвалася на нядаўняй прэс-канферэнцыі з удзелам беларускіх гімнастак-«мастачак», якія прыйшлі на сустрэчу з журналістамі, ледзь ступіўшы на родную зямлю з цягніка «Варшава—Мінск».

Дарэчы, галоўны трэнер зборнай Ірына Ляпарская не выказвала крыўды ў адрас Міністэрства спорту і турызму за недастатковую ўвагу і нейкае ўрэзанае фінансаванне. Па яе словах, міністэрства амаль заўсёды ідзе насустрач мастацкай гімнастыцы і дапамагае чым можа. Аднак выдзеленых грошай недастаткова, каб «закрыць» усе мерапрыемствы, дзе плануюць прыняць удзел дзяўчынкі-былінкі з Беларусі.

### ПЕРАМОГА, У ТЫМ ЛІКУ І ПСІХАЛАГІЧНАЯ

Не хаваў пачуцця глыбокага задавальнення настаўнік Нацыянальнай зборнай Беларусі па футболу Міхаіл Вяргеенка пасля буйнога выйгрышу беларусаў — 5:0 — у саперніках з Літвы. Міхаіл Нічыпаравіч на пасляматчавай прэс-канферэнцыі адзначыў, што нядзельная перамога, хай сабе і ў таварыскай сустрэчы, вельмі важная ў псіхалагічным плане. А то і гуляе каманда, здаецца, нядрэнна, і галявыя моманты стварае, аднак удача дагэтуль адварочвалася ад яе. Настаўнік нацыянальнай зборнай падзякаваў ігракам нападзення за якасны і прыгожы футбол і выказаў некаторыя заўвагі абаронцам. Галы ў нашай зборнай забілі Радзіслаў Арлоўскі, Сяргей Герасімец, Уладзімір Макоўскі, Васіль Баранаў і Максім Раманшчанка.

Галоўны трэнер гасцей Кястуціс Латожа не выглядаў пахмурным. Ён шчыра прызнаўся, што беларусы паказалі на сустрэчы з яго падначаленымі, безумоўна, не ўсё, што могуць, таму нашых балельшчыкаў наперадзе павінны чакаць радасныя перспектывы. Што датычыцца буйнога пройгрышу сваіх падначаленых, то тлумачэнне тут Латожа даў простае: у мінскім паядынку пад сцяг нацыянальнай зборнай Літвы сабралася толькі палова тых ігракоў, якіх ён хацеў бы бачыць. Да таго ж не апошнюю ролю адыграла выдаленне ў першым тайме. Па словах настаўніка літоўцаў, ён ні ў якім разе не асуджае дзеянні галоўнага арбітра сустрэчы Андрэя Бутэнкі. Той, верагодна, справядліва пакінуў гасцей у меншасці, і гаспадары вельмі вынікова скарысталі сваю колькасную перавагу.

**Уладзімір ЗДАНОВІЧ.**

## Ліцэісты абараняюць права на сваю навучальную ўстанову

**Летась вучні, бацькі і выкладчыкі Беларускага гуманітарнага ліцэя амаль усе летнія канікулы на шматлікіх пікетах адстойвалі права на свой будынак па вуліцы Кірава, 21. Будынак павінен быў ужо пайсці на нейкія адміністрацыйныя патрэбы, але ліцэісты здабылі перамогу ў няроўным змаганні. Перамога гэтая аказалася часовай. Унікальны ліцэй, бадай, адзіная навучальная ўстанова ў Мінску, у якой выкладанне ўсіх прадметаў вядзецца па-беларуску, зноў стаіць пад пагрозай ліквідацыі. І сёлета, відаць, гарачае лета для ліцэістаў і іх бацькоў можа паўтарыцца.**

Цяпер перад ліцэем навісла рэарганізацыя, зліццё з ліцэем Белдзяржуніверсітэта, што самі ліцэісты ўспрымаюць як прыхаваную ліквідацыю іх неардынарнай навучальнай установы: «У ліцэі пры БДУ выкладанне вядзецца па-руску, і там вучыцца ў тры разы болей дзяцей, таму гэта непазбежна прывядзе да паглынання нашага ліцэя і яго знішчэння. Разам з далучэннем да БДУ мы страчваем самастойнасць, нам адводзіцца толькі сціплая роля «аддзялення». Змена месца навучання парушыць прынцып сістэмнасці і пераемнасці, парушацца традыцыі, якія склаліся ў нашым ліцэі. Калі дзяржава знішчыць наш ліцэй — гэта будзе найвялікшае злачынства не толькі супраць нас, навучэнцаў, але і супраць тых школьнікаў, якія ў будучым маглі б стаць нашымі калегамі па сапраўды беларускім ліцэі»,— з такой заявай выступілі самі навучэнцы Беларускага гуманітарнага ліцэя Мухін, Арлоў, Шахаўцова і многія іншыя. Яны маюць намер зноў бараніць сваю навучальную ўстанову.

3 і 8 чэрвеня ў перапоўненай актавай зале ліцэя адбыліся бацькоўскія сходы. Бацькі накіравалі ва ўрад пастанову свайго сходу: «Катэгарычна не згодныя з падрыхтаваным без кансультацый з педагогамі і бацькамі праектам, які прывядзе да ліквідацыі адзінай у сталіцы Беларусі беларускамоўнай навучальнай установы передуніверсітэцкага тыпу. Лічым праект ...парушэннем права нашых дзяцей атрымаць адукацыю на роднай беларускай мове і ў той установе, якую яны і мы, іх бацькі, выбралі для навучання». Бацькі вырашылі звярнуцца з просьбамі аб падтрымцы да прэзідэнта, прэм'ер-міністра, выканаўчага сакратара СНД, місіі АБСЕ ў Мінску, прадстаўніцтвы ААН, іншыя міжнародныя арганізацыі і пачаць падрыхтоўку акцый пратэсту. Выканаўчага сакратара Барыса Беразоўскага яны пераконваюць тым, што «ліквідацыя ліцэя выкліча антырасійскія настроі, бо будзе адназначна расцэнена ліцэістамі, іх бацькамі, педагогамі як далейшы наступ на беларускамоўную адукацыю і праяву нацыянальнай дыскрымінацыі».

Беларускі гуманітарны ліцэй быў створаны ў адпаведнасці з пастановай Савета Міністраў Рэспублікі Беларусь у 1990 годзе для паглыбленага вывучэння беларускай мовы, літаратуры, гісторыі і культуры, а таксама для лепшай падрыхтоўкі вучняў да паступлення ў ВНУ гуманітарнага профілю. Распараджэннем урада ў 1992 годзе ліцэю быў перададзены будынак па вуліцы Кірава, 21. Летась гэты будынак быў перададзены ў аператыўнае кіраванне Кіраўніцтва справамі прэзідэнта, ва ўпраўленне адміністрацыйных будынкаў. Ад урада былі атрыманы гарантыі, што ліцэістаў выганяць на вуліцу ніхто не будзе.

Цяпер у ім вучацца амаль 200 навучэнцаў 8—11 класаў, яны паглыблена аваладваюць прадметамі гуманітарнага цыкла і заўсёды паспяхова паступаюць у ВНУ. Сёлета адбыўся набор новага першага курса. Згодна з праектам урадавай пастановы, які паказвалі бацькам навучэнцаў, гэтыя дзеці павінны будуць вярнуцца ў свае школы, бо на будучы навучальны год застануцца толькі тры курсы (9—11 класы), а праз год — толькі два (10—11, як у ліцэі пры БДУ)...

— Летась нас пакінулі ў спакоі, было нармальнае гаспадарчае супрацоўніцтва з упраўленнем адміністрацыйных будынкаў Кіраўніцтва справамі прэзідэнцкай адміністрацыі, я б не сказаў бы, што была нейкая звышдапамога, але было паразуменне з людзьмі, узаемадзеянне па пытаннях рамонту. У акце ж перадачы нашага будынка мы паставілі ўмову, што застаёмся ў гэтым будынку,— расказвае дырэктар Беларускага гуманітарнага ліцэя Уладзімір Колас.— Але сёлета бацькі нашых вучняў ва ўрадавых структурах убачылі праект пастановы Савета Міністраў аб рэарганізацыі нашага ліцэя і ліцэя пры БДУ са стварэннем на іх базе новага ліцэя. Натуральна, што калі яны ліквідуюцца, дык усіх звольняць і будуць прымаць на працу нанава. Асабіста ў мяне была папярэдняя размова з міністрам адукацыі ў канцы мая. Мне тады паведамілі пра такія перспектывы, і я выказаў сваю пазіцыю, сказаў, што я ў гэтым бачу толькі адмоўнае, што такім чынам ліквідуецца адзіная беларуская навучальная ўстанова ў Мінску такога тыпу. І гэтага доваду, па-мойму, ужо дастаткова, каб такога не рабіць. У нас усяго два ліцэі перадуніверсітэцкага ўзроўню на амаль двухмільённы Мінск, гэта не так многа, мы сябруем, абменьваемся вопытам, супрацоўнічаем, але кожны мае сваю адметнасць, і ў гэтым іх каштоўнасць. Зараз ідзе рэформа адукацыі, і я лічу, што трэба мець некалькі пляцовак для напрацоўкі вопыту ў рэчышчы закона аб адукацыі. Гэта вельмі карысна, навошта ж гэта ламаць? Аднак ніхто не можа сказаць, чаму патрэбна такая рэарганізацыя. Міністр казаў, што гэта будзе на карысць, што значна павысіцца заробак выкладчыкаў — да ўзроўню універсітэцкіх акладаў, і ў выпускнікоў з'явіцца права без экзаменаў паступаць у БДУ. Мы не супраць гэтага. Але, прабачце, за гэта аддаць ліцэй... Я веру, што ўрад жадае нам лепшага, але спадзяюся, што гэта не будзе рабіцца за нашай спінай, што гэты дакумент будзе распрацоўвацца з нашым удзелам і мы зможам сфармуляваць нашу пазіцыю і выказаць яе. А калі ж гэта робіцца без уліку нашых інтарэсаў, то мы пакідаем за сабой права рэагаваць адпаведным чынам. Ніхто не ведае нашай спецыфікі лепш, чым мы, прычым ніхто ёю не цікавіўся з тых, хто рыхтаваў праект гэтай пастановы.

На самай справе праект рэарганізацыі існуе і, як паведаміў намеснік міністра адукацыі Генадзь Дылян, размова ў ім ідзе не аб ліквідацыі ліцэя, а аб пераўтварэнні ў яго ў асобнае аддзяленне пры ліцэі БДУ. Прычым пастанова гэтая можа быць падпісана ўжо на гэтым тыдні.

— Ідэя зыходзіць не ад нас, такую ідэю мы самі б не выключылі. Так што ніякіх каментарыяў я даваць не хачу. Мы тут толькі выканаўцы, не больш,— падкрэсліў Г. Дылян.

Хаця ён і прызнаўся, што асабіста ён не лічыць такое рашэнне вельмі ўдалым, што яно выкліча скандал не толькі ў Мінску і што, магчыма, прыйдзецца прынятае рашэнне «адкручваць назад».

Раней было некалькі крытычных выказванняў, быццам гэты ліцэй занадта палітызаваны, бо там працуюць кіраўнікі БНФ Л. Баршчэўскі, В. Вячорка. Аднак да такой ацэнкі ягоны дырэктар, бацькі і навучэнцы адносяцца рэзка адмоўна.

— Тут мы займаемся адукацыяй, а не палітыкай. Трэба было б напэўна тым, хто рыхтуе гэтае рашэнне, проста пасядзець на выпускных экзаменах па гісторыі, паліталогіі, літаратуры і паслухаць, як адказваюць нашы ліцэісты. Мы даем веды, абсалютна ніякай палітыкі ў нас няма. І высокі ўзровень ліцэя пацвярджаецца праверкамі, якія рабіліся прафесійнымі людзьмі, конкурсам 5 чалавек на месца пры паступленні,— даказвае У. Колас.— Нельга ісці на знішчэнне адзінага беларускамоўнага ліцэя.

...У прэамбуле праекта названай вышэй пастановы, які змаглі прачытаць бацькі навучэнцаў падчас сваіх візітаў па інстанцыях, запісаны добрыя словы: у мэтах забеспячэння спрыяльных умоў для рэалізацыі дзяржаўнай падтрымкі творчай і адоранай моладзі, эфектыўнага выкарыстання інтэлектуальнага патэнцыялу... Добрыя намеры і пажаданні распрацоўшчыкаў праекта, відаць, не знайшлі рэалізацыі ў іх канкрэтных прапановах, прынамсі, з гэтым не пагаджаюцца ні самі навучэнцы ліцэя, ні іх бацькі, ні настаўнікі.

**Валер КАЛІНОЎСКІ.**

*Разумеючы складанасць і неардынарнасць сітуацыі з Беларускім гуманітарным ліцэем, рэдакцыя мае намер прадаставіць слова ўсім, хто палічыць патрэбным выказацца на гэтую тэму.*

## БЕЛАЕ І ЧЫРВОНАЕ

**Згадваючы гарбачоўскую эпоху, у нас прынята іранізаваць над адным з першых радыкальных крокаў генсека-рэфарматара — антыалкагольнай кампаніяй, разгорнутай ім неўзабаве пасля прыходу да ўлады, трынаццаць гадоў таму. Аднак многія праявы сённяшняй беларускай рэчаіснасці вымушаюць без усякай іроніі і насмешкі ўспамінаць пра аргументы, якія ў свой час сталі падставай для ўказа па барацьбе з п'янствам.**

Беларусь услед за Расіяй вельмі хутка вярнулася да найгоршых «піцейных» традыцый брэжнеўскіх часоў. Лікёра-гарэлачныя заводы, заводзікі і цэхі ў сціслыя тэрміны аднавілі вытворчасць нізкаякасных і танных спіртных напіткаў пад гарэзлівымі назвамі накшталт «Светлячок» ці «Світанак». Праўда, у адрозненне ад 70—80-х гадоў, вытворцы не адважваюцца называць гэтыя вадкасці высакародным словам «віно», але ад гэтага рознакаляровае вадкае змесціва бутэлек не перастала быць «чарнілам».

Прычым праблема сёння стаіць намнога больш востра, чым у 70—80-х гадах. У брэжнеўскую эпоху партыйныя ўлады, не адважваючыся падняць руку на векавыя традыцыі, якія да таго ж з'яўляліся апорай дзяржаўнага бюджэту, усё ж настойліва і паслядоўна імкнуліся накіраваць алкагольную смагу ў цывілізаванае еўрапейскае рэчышча. Праяўлялася гэта ў тым, што агульнадаступнымі і таннымі ў той час былі параўнальна якасныя натуральныя віны — малдаўскія, грузінскія, крымскія, а таксама віны краін «сацыялістычнага лагера» — Балгарыі і Венгрыі. Кошт бутэлькі натуральнага віна быў прыкладна на роўны кошту нізкаякаснага «чарніла» і ажно ў 5—10 разоў ніжэйшы за кошт гарэлкі.

У сённяшняй Беларусі праблемай якасці таго, што разлівае ў шклянкі народ і як гэты народ будзе адчуваць сябе «пасля ўчарашняга», падобна, не дужа заклапочаны. Пітушчаму чалавеку з сярэдняй (і нават высокай) зарплатай выбіраць, што піць — добрае віно, падазронае нізкаякаснае «чарніла» або айчынную гарэлку (таксама далёка не заўсёды якасную) — сёння не даводзіцца. За яго гэта зрабіла дзяржава, увёўшы на натуральныя віны такія акцызы, якія зрабілі іх фактычна недасягальнымі для 90 працэнтаў беларускіх спажыўцоў.

Кошт добра знаёмых нам балгарскіх він сёння пераўзыходзіць кошт гарэлкі ў 5-6 разоў. За бутэльку якаснага італьянскага, іспанскага або французскага віна беларусу трэба выкладзыць трэць месячнай зарплаты.

І гэта пры тым, што набываюцца гэтыя віны нашымі імпарцёрамі па вельмі нізкіх цэнах, якія рэдка пераўзыходзяць 1 долар за бутэльку.

Звычайна высокія мытныя пошліны на імпартныя віны ўводзяць тыя дзяржавы, якія самі з'яўляюцца вытворцамі гэтай прадукцыі, — дзеля таго, каб абараніць уласных вінаробаў. А каго абараняюць неразумнымі бар'ерамі беларускія ўлады? Вытворцаў «барматухі», якую, на добры толк, даўно павінны былі забараніць вырабляць і спажываць медыкі, — дзеля захавання здароўя нацыі.

Адказ на гэта рытарычнае пытанне вядомы: дзяржава абараняе бюджэт, «п'яныя» рублі ў якім займаюць адно з вядучых месцаў. Потым гэтыя рублі пераразмяркоўваюцца — на падтрымку вёскі, якая ў масавых маштабах співаецца; на ўтрыманне дзіцячых дамоў, перапоўненых дзецьмі бацькоў-п'яніц; на медыцыну, якая вымушана мець справу з вынікамі непамернага ўжывання алкагольных сурагатаў...

Я далёкі ад думкі, што праблему можна вырашыць адміністрацыйнымі мерамі — тым больш, падобнымі на тыя, што былі ўведзены ў СССР у 1985 годзе. Але дзяржава здольная і павінна прымяняць разумныя, апрабаваныя ў свеце рычагі, якія б дазволілі зняць вастрыню праблемы. Нідзе ў цывілізаваным свеце не прадаюцца алкагольныя сурагаты, роўныя па цане «Кока-коле».

Ніводная паўночная краіна, у якой не вырошчваецца вінаград, не робіць якасныя віны недаступнымі для сваіх грамадзян і не прымушае тым самым пераходзіць пітушчую частку насельніцтва на моцныя алкагольныя напіткі айчыннай вытворчасці.

Беларускім уладам у блізкай перспектыве давядзецца звярнуць увагу на гэту праблему: пагражальная статыстыка выразна сведчыць пра гэта. Так што гарбачоўскі антыалкагольны ўказ 1985 года, хутчэй за ўсё, — не апошні, сведкамі якога нам наканавана быць. Пытанне ў тым, якімі будуць новыя меры дзяржавы дзеля таго, каб абмежаваць небяспечнае сацыяльнае зло, каб не натварыць новых глупстваў. Гаварыць пра гэта варта ўжо цяпер.

**Валянцін ЖДАНКО.**



## Мікалай ЧУРСІН:

# «ТОЛЬКІ НАЙНОЎШЫЯ ТЭХНАЛОГІІ ГАРАНТУЮЦЬ ПОСПЕХ НА СУСВЕТНЫМ РЫНКУ»

**Амаль трыццаць гадоў таму, дзесьці ўжо напрыканцы 1968 года, у Маладзечне пачаў працаваць буйнейшы ў краіне завод металаканструкцый. Праз пэўны час побач узвялі яшчэ адзін завод — лёгкіх металаканструкцый. Потым абодва прадпрыемствы аб'ядналіся ў адно: Маладзечанскі завод лёгкіх металаканструкцый (ЗЛМК). Памятаецца, як у час будаўніцтва, пуску і далейшай эксплуатацыі ў прэсе, на радыё і тэлебачанні не было недахвату ў матэрыялах аб рабоце новых для рэспублікі вытворчасцяў. Яшчэ б! Прадукцыя з Маладзечна адпраўлялася па ўсёй некалі неабсяжнай краіне, паступала за мяжу. Яе добра ведалі ў краінах Еўропы, Азіі і Афрыкі. Паступова ўвага да ЗЛМК з боку сродкаў масавай інфармацыі пачала слабець. Можа яшчэ і таму, што прадпрыемства ўваходзіла тады ў састаў саюзнага міністэрства: быццам і ў рэспубліцы, і разам з тым як бы на водшыбе. А потым пачаліся не лепшыя для ўсіх часы, бо развал СССР найбольш балюча ўдарыў па прадпрыемствах былога саюзнага падпарадкавання: згубіліся некалі ўстойлівыя эканамічныя сувязі, рынкі збыту... А як жа ЗЛМК? І яму ў пэўнай ступені давялося зведаць наступствы неабачлівых дзеянняў авантурыстаў ад палітыкі. Але калектыў выстаяў, годна вытрымаў усе перыпетыі эканамічнага катаклізму. Маладзечанскі завод лёгкіх металаканструкцый не толькі не зменшыў наменклатуру вытворчасці, але, наадварот, значна расшырае аб'ёмы і асартымент прадукцыі. У гэтыя дні поўным ходам тут ідзе працэс укаранення якасна новых тэхналогій, пасля чаго прадпрыемства стане ўпоравень з такімі грандамі айчыннай прамысловасці, як МАЗ, БМЗ...**

**Перамены да лепшага ў многім звязаны з тым, што ў 1995 годзе калектыў завода ўзначаліў Мікалай Чурсін. У хуткім часе рэзка выраслі тэмпы росту аб'ёмаў прадукцыі. Яшчэ больш шпарка пачала развівацца вытворчасць у наступныя гады. Так, напрыклад, летась у параўнанні з 1996 годам тэмпы росту аб'ёмаў прадукцыі ў супастаўных цэнах склалі 147,6 працэнта, а сёлета за 5 месяцаў у параўнанні з аналагічным перыядам леташняга года — яшчэ на 131,6 працэнта. А вось як гэта ім удаецца, мы і пастараліся высветліць у час апошняй камандзіроўкі ў Маладзечна пры сустрэчы з дырэктарам прадпрыемства Мікалаем ЧУРСІНЫМ, спецыялістамі і рабочымі ЗЛМК.**


Дырэктар ЗЛМК Мікалай ЧУРСІН.

— Не абмінулі на пачатку дзевяностых гадоў рознага роду ўзрушэнні і наша прадпрыемства, — зазначае Мікалай Усцімавіч. — Аднак у той няпростай сітуацыі мы змаглі хутка зарыентавацца. Дапамагло і тое, што яшчэ ў тыя часы ўдалося прабіцца са сваімі таварамі на замежныя рынкі. А ўсё таму, што няспынна імкнуліся працаваць у адпаведнасці з патрабаваннямі часу, укараняць усё лепшае, перадавое. Ва ўсякім разе, калі многія прадпрыемствы апынуліся ў зацяжным эканамічным крызісе, мы не дапусцілі абвальнага спаду вытворчасці. А ў апошнія гады дабіліся ўстойлівага росту аб'ёмаў выпуску і рэалізацыі прадукцыі. А вось за кошт чаго? Найперш дзякуючы ўкараненню найноўшых тэхналогій.

Сёння на змену традыцыйным дамам з цэглы і зборнага жалезабетону, на ўзвядзенне якіх патрабуюцца многія месяцы і нават гады, прыходзяць пабудовы са зборных металаканструкцый, што ў некалькі разоў паскарае тэмпы будаўніцтва. Раней у былым Саюзе некалькі прадпрыемстваў спецыялізаваліся на вытворчасці металаканструкцый. Адны выраблялі сценавыя панелі, другія — дахавыя матэрыялы, трэція — вокны, дзверы, іншыя дэталі і вузлы. А пасля распаду СССР мы першымі на ўсёй постсавецкай прасторы асвоілі поўны комплекс вырабу падобных будынкаў. Мантажнікам толькі застаецца сабраць іх на месцы. Пры гэтым эканомяцца і час, і немалыя сродкі. З нашых канструкцый пабудавана нямала будынкаў бытавога, грамадскага, спартыўнага прызначэння. Так, у Саліхардзе падобным чынам узведзена школа на 3000 месцаў. Вялікай папулярнасцю сярод газаздабытчыкаў Расіі карыстаюцца спецыялізаваныя жылыя блокі з комплексам бытавых зручнасцяў, якія разлічаны на 5, 10, 15, 25 і 50 чалавек. Дарэчы, менавіта расійскі «Газпрам» з'яўляецца адным з асноўных спажыўцоў нашай прадукцыі. У якасці разліку за пастаўляемы для Рэспублікі Беларусь газ мы адпраўляем штомесячна ў адрас «Газпрама» прадукцыі недзе на 1,8—2 мільёны долараў.

Або ўзяць такі прыклад. Сёння краіна мае вялікую патрэбнасць у звычайных водаправодных трубах. У нас ёсць адпаведны пракатны стан, дзе можна іх вырабляць, прычым сячэннем ад 76 да 273 міліметраў. Неставала толькі стэнда для гідраўлічнага выпрабавання труб. І вось дырэкцыя прадпрыемства накіравала ў Германію сваіх прадстаўнікоў з мэтай заключэння дагавора з вядомай нямецкай фірмай Крупа на пастаўку такога стэнда. У выніку ўдасца поўнасцю забяспечыць усе патрэбнасці рэспублікі ў трубах. А іх трэба дзесяткі тысяч тон. Колькі будзе зэканомлена валюты!

**— Папулярным у наш час стала стварэнне сумесных прадпрыемстваў з выкарыстаннем замежнага капіталу. Як вядома, на ЗЛМК таксама дзейнічаюць СП. І якая эфектыўнасць падобнага супрацоўніцтва?**

— Найперш гэта дае магчымасць укараняць самыя прагрэсіўныя тэхналогіі, якія адпавядаюць патрабаванням часу. Бо толькі найноўшыя тэхналогіі гарантуюць поспех на сусветным рынку. Некалькі гадоў таму мы стварылі першае такое СП «Мінскі мэблевы цэнтр». Заснавальнікамі новага прадпрыемства разам з ЗЛМК сталі Міністэрства лясной гаспадаркі і нямецкая фірма «Грэкон». Немцы паставілі найноўшыя дрэваапрацоўчыя станкі, яны ж забяспечваюць устойлівы рынак збыту ў краінах Заходняй Еўропы. Корпусная мэбля з масіву сасны карыстаецца вялікім попытам у Германіі, Францыі, Аўстрыі, Швейцарыі. Прычым мы атрымліваем цвёрдую валюту. Да таго ж новая вытворчасць забяспечыла дадаткова больш за дзвесце рабочых месцаў, што ва ўмовах такога горада, як Маладзечна, мае немалаважнае значэнне. Сумесна з Мінскім заводам «Атлант» на вытворчых плошчах ЗЛМК наладзілі выраб спецыяльных паліц для халадзільнікаў. Цяпер там працуюць 190 чалавек. А пры асваенні вырабу ёмістасцяў і кандэнсатараў для халадзільнікаў трэба будзе прыняць на работу яшчэ каля паўтараста чалавек. Шматабяцальным бачыцца і супрацоўніцтва з расіянамі. На базе ЗЛМК нядаўна створана СП «Белрастпраём». Асноўная прадукцыя гэтага СП — спецыяльныя вокны,


Начальнік вытворчасці «Росбелпраём» Сяргей КІЧЫГІН і рабочы Уладзімір КАЗЛОЎСКІ ля новага шклопакета, выраб якіх тут распачаўся.


На ўчастку мэблевай вытворчасці.


Майстар Андрэй АБЦЭВІЧ і вальцоўшчык Васіль ГРУНЬКО.


У цэху па вытворчасці металаканструкцый.



Экалагічна чыстыя ёмістасці з двайнымі сценкамі для захоўвання нафтапрадуктаў.



Засядаюць камандзіры вытворчасці.

так званыя шклопакеты. Але ў адрозненне ад традыцыйных шклопакетаў, рамы якіх вырабляюцца з поліхлорвінілу, у нас выкарыстоўваецца больш прагрэсіўная італьянская тэхналогія. У прыватнасці, каркасы робяць з алюмінію адначасова з цёплай устаўкай, што ў сваю чаргу намнога павышае трываласць і надзейнасць новых вокнаў. А ўсё разам — гэта і дадатковыя сродкі, і рабочыя месцы.

І ўсё ж найбольшыя перспектывы чакаюцца ад супрацоўніцтва з фінамі. Нядаўна падпісаны пакет дагавораў з вядомай фірмай «Раўтарукі» аб стварэнні СП па афарбоўцы і антыкаразійнаму пакрыццю стальнога ліста. Неўзабаве пачнецца мантаж і наладка абсталявання. А ўсяго фіны і амерыканцы гатовы інвесціраваць у гэты праект каля 13 мільёнаў долараў. Рэалізацыя планаў толькі па гэтаму СП дазволіць у год мець дадаткова прадукцыі недзе на суму каля 90 мільёнаў долараў. Яна будзе рэалізоўвацца ў асноўным за мяжой. Зноў жа гэта дасць магчымасць дадаткова стварыць яшчэ каля 150 рабочых месцаў. Значныя валютныя паступленні чакаюцца і яшчэ ад аднаго сумеснага з фінамі прадпрыемства, якое будзе выпускаць металачарапіцу. І тут — найноўшыя тэхналогіі, практычна неабмежаваны рынак, а значыць і валюта. Вядуцца перамовы з фінамі і па арганізацыі сумеснай вытворчасці сценавых панеляў, аналагаў якім не будзе не толькі на былой постсавецкай прасторы, але і ў Еўропе. Ва ўсякім разе, ажыццяўленне гэтых і многіх іншых задумак забяспечыць ужо ў 2000 годзе выпуск прадукцыі ў аб'ёме 180—190 мільёнаў долараў, што дазволіць прадпрыемству стаць адным з буйнейшых «валютных цэхаў» рэспублікі.

**— Пастаянным галаўным болем многіх кіраўнікоў з'яўляецца сацыяльная сфера...**

— А як жа інакш! Каб чалавек працаваў як след, укладваў душу ў справу, яму найперш трэба стварыць належныя ўмовы. Паспяхова ажыццяўляецца жыллёвая праграма. Вось і сёлета для працаўнікоў прадпрыемства ўзводзім чарговы жылы дом. Толькі 40 працэнтаў кошту кватэры будуць аплачваць самі работнікі, астатнія выдаткі бярэ на сябе прадпрыемства. Рэгулярна выплачваецца і заработная плата, прычым ні на адзін дзень не бывае затрымак з яе выдачай. У сярэднім на заводзе яна складае каля 6 мільёнаў рублёў — бадай, адна з самых высокіх у Маладзечне. У дадатак кожны работнік можа бясплатна абедаць у заводскай сталовай. Прадпрыемства аказвае людзям матэрыяльную дапамогу ў набыцці пуцёвак у санаторыі і дамы адпачынку. Гэтыя і іншыя сацыяльныя даброты амаль да нуля звялі цякучасць кадраў. Больш таго, у нас ужо склаліся цэлыя сямейныя дынастыі, дзе поплеч з бацькамі сталі іх дзеці. У сваю чаргу лічу, што мне пашанцавала, бо побач працуюць вопытныя арганізатары вытворчасці. Сапраўднымі паплечнікамі сталі галоўны інжынер Рыгор Купцэвіч, намеснік дырэктара па маркетынгу і эканоміцы Дзмітрый Сінькоўскі і намеснік па вытворчасці Мікалай Саладцоў, галоўны тэхнолаг Міхаіл Губаеў, галоўны механік Іван Хоміч, начальнік эканамічнага аддзела Ніна Мацуць і многія іншыя. А колькі ў нас сумленных, адданых справе працаўнікоў! З такімі кадрамі хочацца працаваць яшчэ лепш.



Гатовыя для адпраўкі фермы.



Аператар пракатнага стана Анатоль ПОЛАЗ.





Агульны выгляд будынка заводакіраўніцтва.


РЭСПУБЛІКА БЕЛАРУСЬ, 222310,

г. МАЛАДЗЕЧНА, ВЯЛІКІ ГАСЦІНЕЦ, 31А,

ТЭЛ.: (01773) 7-04-02; 5-45-01; 5-27-56; 5-35-68; 7-19-53.

ФАКС (0173) 5-24-01. ТЭЛЕТАЙП 301761 БУЛАТ.


Матэрыялы выпуску падрыхтавалі да друку карэспандэнты «Звязды» Уладзімір ГОЙТАН і Мікалай АМЕЛЬЧАНКА (фота).

# КІРМАШ

## ШТОТЫДНЁВЫ РЭКЛАМНЫ ВЫПУСК

**№ 22 (140)**




## «Philips» наладжвае ў Беларусі інфармацыйную тэлефонную лінію для спажыўцоў

**Як вядома, «Philips» праводзіць цяпер глабальную кампанію «Зменім жыццё да лепшага». Яе асноўны сэнс заключаецца ў пастаянным узаемадзеянні і партнёрстве літаральна з кожным кліентам.**

Таму не дзіўна, што з мая па ліпень у мінскім прадстаўніцтве вядомай у свеце кампаніі працуе інфармацыйная тэлефонная лінія для спажыўцоў.

У рабочыя дні з 15 да 19 гадзін спецыялісты фірмы гатовы адказаць на любыя пытанні, якія датычацца бытавой тэхнікі «Philips» (брытвы, эпілятары, прасы, пыласосы, фены, розная кухонная тэхніка). Кліенты, а іх з моманту адкрыцця прадстаўніцтва ў 1993 годзе налічваецца ў Беларусі прыкладна 200 тысяч, могуць атрымаць самыя розныя парады і рэкамендацыі па выкарыстанню набытага тавару, тлумачэнні падыходаў «Philips» да сервіснага абслугоўвання і гарантыйнага перыяду работ, кансультацыі аб тэхнічных асаблівасцях розных мадэляў бытавой тэхнікі.

Свае заўвагі, пытанні, пажаданні можна адрасаваць па кантактнаму тэлефону прадстаўніцтва «Philips» у Рэспубліцы Беларусь: (017) 220-09-15.

**Уладзімір ЗДАНОВІЧ.**

## *Віншаванні*

*Любую нявестку* **Алу КАШЭВІЧ** *з Гомеля віншуем з днём нараджэння. Жадаем моцнага здароўя, шчасця, ладу і дабрабыту ў сям'і.*

**Бацькі,** *в. Чырвонабярэжжа.*

*Віншую дарагую дачку* **Зою Уладзіміраўну ЖЛОБІЧ** *з в. Красны Дар Чэрвеньскага раёна. Жадаю, каб не ведала больш бяды ніколі, каб шчасце і радасць заўжды былі з табою.*

**Бацька**, *в. Турын.*

*Віншуем з днём нараджэння* **Ніну Аляксандраўну БАРАВУЮ** *з г. Светлагорска. Жадаем здароўя, бадзёрасці, шчасця і даўгалецця.*

**Сям'я Канавалавых.**

*Віншуем любую бабулю Міну Маркаўну і дзядулю* **Васіля Мікітавіча ЕРМАКОВІЧАЎ** *з залатым вяселлем. Жадаем здароўя, радасці і Божых благаславенняў.*

**Сям'я Ермаковічаў**, *в. Садовічы.*

*Віншуем з 60-гадовым юбілеем блізнят* **Марыю Мікалаеўну РОКАТ і Івана Мікалаевіча ПЯТРОЎСКАГА** *з г. Салігорска. Няхай моцнае здароўе, радасць, шчасце і сямейны дабрабыт крочаць разам з вамі па жыцці, мае дарагія.*

**Пятроўскі А. М.**, *в. Каўгоры.*



## ПРАДАЕЦЦА

● Цагляны дом 2-павярховы з гаражом, садам у Мядзелі на беразе возера Мястра.
Тэл. у Мядзелі 5-40-81.

● Дом у в. Швакшты (каля возера Нарач) — 2000 у.а.; «ВАЗ-21013» 1982 г. в.
Тэл. у Мядзелі 5-15-83.

● А/м «Опель-Аскона» 1985 г. в., цэнтральны замок, люк— у Смаргоні.
Тэл. (8-01592) 3-16-28.

● Запчасткі да «Масквіча-412»: карбюратар, стартэр, прычапное прыстасаванне, оптыка галагенная і інш.
Тэл. (8-217) 5-23-55, Мікалай Канстанцінавіч.

● «ГАЗ-53» фургон, у добрым тэхнічным стане, цана дагаворная (г. Клецк)
Тэл.(8-293) 5-33-16, пасля 18.

● Касілка конная з з/ч, рухавік Д-300 бензінавы — у Любанскім раёне.
Тэл.(8-294) 5-96-12, 5-96-22.

● Бульба вялікая.
Тэл. у Стаўбцоўскім раёне 3-46-75.

● Хата з г/пабудовамі у Стаўбцоўскім раёне, маецца сад, калодзеж.
Тэл. у Мінску 211-97-77.

● Кватэра 3-пакаёвая з выгодамі, г/пабудовы, участак 50 сотак у в. Клясціцы Расонскага раёна.
Тэл. 2-49-50.

● Дом, 12 км ад Гомеля, участак 40 сотак, лазня, сад, хлеў.
Тэл. у Мінску 243-72-56; 238-85-49.

● ЗАЗ-110206 «Таўрыя» 1992 г. в., матацыкл з каляскай «ІЖ-Ю4К», цэны дагаворныя.
Тэл. у Маладзечне 3-27-47.

● «ВАЗ-2101» 1973 г. в. у выдатным стане— 1600 у.а.; матацыкл «Усход-3М» на з/ч 1988 г.в. на ходу. Звяртацца: 222312, в. Літва, д. 74, Маладзечанскага раёна.

● Дом 4-пакаёвы з усімі выгодамі і г/пабудовамі ў в. Стальбоўшчына Уздзенскага раёна.
Тэл. (8-218) 3-63-45.

● Бензапіла шведская.
Тэл. у Мінску (8-22) 57-06-88.

● Дом з г/пабудовамі, сад, участак 10 сотак у в. Іканы Барысаўскага раёна, або мяняю на 1- пакаёвую кватэру ў Гомелі ці прыгарадзе.
Тэл. (8-0233) 72-31-93.

● Зруб 9 х 11 у г. Іўе.
Тэл. (8-017) 251-06-48.

● Трактар «МТЗ-50» з рухавіком Д-240 і прычэп 2 ПТС-4 — у Навагрудку.
Тэл. (8-297) 2-24-15.

● Кватэра 2- і 3-пакаёвая ў г. Дзятлава Гродзенскай вобласці.
Тэл. 2-28-08.

● Драўляны зруб.
Тэл. у Мінску 255-08-10.

● «Форд-Сіера» 1984 г.в. у добрым стане, дызель 2,3 л.
Тэл. (8-01775) 3-73-06, увечары.

● Матацыкл «ІЖ-Планета 5» з каляскай новы, 1991 г. в.— 700 у.а., або мяняю на новы зруб.
Тэл. у Мінску 259-96-02.



## РОЗНАЕ

● Мяняю 3-пакаёвую кватэру ў Паставах на 2-пакаёвую ў Маладзечне або Лузе.
Тэл. у Паставах 2-51-97.

● Мяняю генератар 220/380 в для мініэлектрастанцыі, радыятар «ГАЗ-52» на электраінструмент, або прадам.
Тэл. (8-217) 5-23-55.

● Прадам або мяняю на кватэру вялікі драўляны дом у г. Хойнікі Гомельскай вобласці (маецца сад, гараж, г/пабудовы, участак 30 сотак).
Тэл. у Смаргоні (8-01592) 3-63-92.

● Куплю «МТЗ-82» ці «Т-25» б/к.
Тэл. (8-017) 251-06-48.

● Куплю старыя фотаапараты, аб'ектывы, значкі і іншыя рэчы.
Тэл. 253-24-41.

● Дзве дзяўчыны шукаюць тэрміновую работу без спецыяльных навыкаў. Якасць і акуратнасць гарантуем.
Тэл. у Калінкавіцкім раёне 5-62-42.



## Краткая информация о проведении открытой подписки на акции АКБ «Белорусский народный банк» девятого выпуска

Полное наименование:
— на русском языке — Акционерный коммерческий банк «Белорусский народный банк»;
— на белорусском языке — Акцыянерны камерцыйны банк «Беларускі народны банк».
Сокращенное наименование — АКБ «БНБ» (в дальнейшем — Банк).
Зарегистрирован в Национальном банке Республики Беларусь 16 апреля 1992 г., регистрационный номер — 27.
Юридический адрес: 220004, г. Минск, ул. Танковая, 1.
Тел./факс (0172) 23-84-57.

**ОСНОВНЫМИ ЦЕЛЯМИ БАНКА ЯВЛЯЮТСЯ:**
— осуществление деятельности, направленной на извлечение максимальной прибыли;
— содействие развитию в республике товарно-денежных и рыночных отношений путем предоставления клиентам Банка полного комплекса банковских услуг;
— поддержка и развитие предпринимательства и малого бизнеса, содействие реализации экономической стратегии Республики Беларусь, повышению устойчивости и покупательной способности денежной единицы;
— финансирование и кредитование культурных, экологических программ, а также других объектов социальной сферы.

**ПРЕДМЕТОМ ДЕЯТЕЛЬНОСТИ БАНКА ЯВЛЯЕТСЯ** комплекс банковских и иных коммерческих услуг, оказываемых Банком юридическим и физическим лицам в соответствии с действующим законодательством.

Основные показатели финансово-хозяйственной деятельности Банка таковы:
Размер чистой прибыли:
— на 01.01.98 г. — 14416,5 млн. руб.;
— на 01.04.98 г. — 1087,3 млн. руб.;
Сумма, направляемая на выплату дивидендов:
— 1995 г. — 654,9 млн. руб.
— 1996 г. — 792 млн. руб.
Доходность на одну акцию:
— 1995 г. — 670 руб.
— 1996 г. — 198 руб.
Сведения о предыдущих выпусках акций:
— Банком произведено 8 выпусков акций;
— выпущены 5.421.494 простые именные акции номинальной стоимостью 12.900 рублей;
— размер зарегистрированного Уставного фонда — 69.937.272.600 рублей.

1 июня 1995 г. Собранием акционеров АКБ «БНБ» было принято решение об увеличении номинальной стоимости акций АКБ «БНБ» 1—4 выпусков с 1000 руб. до 10.000 руб.

28 марта 1997 г. Собранием акционеров АКБ «БНБ» было принято решение об увеличении номинальной стоимости акций АКБ «БНБ» 1—7 выпусков с 10.000 руб. до 10.500 руб.

12 марта 1998 г. Собранием акционеров АКБ «БНБ» было принято решение об увеличении номинальной стоимости акций АКБ «БНБ» 1—8 выпусков с 10.500 руб. до 12.900 руб.

Размер объявленного Уставного фонда составляет 100.897.272.600 рублей.

Планируемый объем эмиссии акций Банка девятого выпуска составляет 30.960.000.000 рублей.

К открытой подписке предлагаются простые именные акции в количестве 2.400.000 штук номинальной стоимостью 12.900.рублей.

Подписка на акции проводится в течение 6 (шести) месяцев со дня публикации в печати настоящей краткой информации, заверенной Комитетом по ценным бумагам при Министерстве финансов Республики Беларусь.

Распространение акций будет производиться путем открытой подписки ежедневно с 9.00 до 17.00, кроме субботы и воскресенья, по адресу: г. Минск, ул. Первомайская, 12.

Оплата за акции производится в белорусских рублях на счет № 6661000010013 в АКБ «БНБ», код 765, в свободно конвертируемой валюте — на счета № 1701-792017-001 для USD, № 1701-792017-006 для DEM в Акционерном коммерческом банке внешнеэкономической деятельности Республики Беларусь, код 226.

В случае недостижения в ходе подписки уровня планируемой эмиссии Уставный фонд Банка увеличивается на величину, фактически полученную при подписке, и утверждается собранием акционеров.

В случае достижения планируемого объема эмиссии до окончания срока подписки подписка на акции прекращается досрочно.

В счет оплаты акций могут быть направлены только собственные средства инвестора. Привлеченные и заимствованные средства, кредиты не могут быть направлены на пополнение Уставного фонда Банка. Подписчики обязаны подтвердить наличие, объем и законность происхождения средств, вносимых в Уставный фонд Банка и подлежащих декларированию. Несоблюдение этих условий служит основанием отказа в подписке.

Средства, поступающие в счет пополнения Уставного фонда к моменту подачи учредительных документов для перерегистрации устава Банка, связанного с увеличением его Уставного фонда, зачисляются на временный накопительный счет, открытый в Национальном банке Республики Беларусь. Банк гарантирует сохранность средств до государственной регистрации акций.

Средства, полученные в результате подписки на акции, будут использованы в целях получения максимального размера прибыли и развития товарно-денежных и рыночных отношений.

Дивиденды по акциям начисляются и выплачиваются в порядке и размерах, устанавливаемых Советом Банка.

При отказе от выпуска акций, принятом Собранием акционеров, средства, полученные в счет оплаты акций по подписке, возвращаются инвесторам в течение месяца со дня подачи заявления.

***Более подробно ознакомиться с условиями подписки (проспектом эмиссии) можно ежедневно с 9.00 до 17.00, кроме субботы и воскресенья, по адресу: г. Минск, ул. Первомайская, 12, по тел. 227-12-08.***

**Председатель правления А. С. ТАРАТУХИН**
**Главный бухгалтер Т. В. КАЛАЧИНСКАЯ**

## *Асабістае жыццё*

**Аб. 725**. Адзінокая жанчына, 40/164, пазнаёміцца з самастойным адзінокім мужчынам без шкодных звычак, да 45 гадоў. Жыллём забяспечаная, выхоўваю дачку.

**Аб. 726**. Пётр, 41/170/80, пазнаёмлюся з жанчынай да 42 гадоў для стварэння сям'і. Жыву ў сельскай мясцовасці з бацькамі (у Дрыбінскім раёне), разведзены.

**Аб. 727**. Пазнаёмлюся з жанчынай да 42 гадоў без шкодных звычак для стварэння сям'і. Аб сабе: 39/185/85, без ш/з, нішто сабе. Знаходжуся ў Глыбокім, УЖ-15.

**Аб. 728**. Аксана, пазнаёмлюся для перапіскі. Мне 17/160/60, Скарпіён, без ш/з. Шукальнікаў прыгод і судзімых прашу не пісаць. Абавязкова фота, абяцаю вярнуць.

**Аб. 729**. Мілыя дзяўчаты, з вамі жадаюць пазнаёміцца вясёлыя сімпатычныя хлопцы з ІВ, Сяргей — 19/174/73, Аляксандр — 20/188/85, Полацкі раён.

Удачы, А. ДЗІВАК.

## ЗВЯЗДА

**Купон для бясплатнай прыватнай аб'явы**

**Запоўніце разборліва, выражце і вышліце на адрас рэдакцыі 220013, Мінск, вул. Б. Хмяльніцкага, 10 А.**

**АБАВЯЗКОВЫЯ звесткі не для друку: ваша прозвішча, адрас, хатні тэлефон.**

**Тэлефон для даведак 232-31-98.**

*Увага! Неразборліва запоўненыя купоны не разглядаюцца і не вяртаюцца.*
*Пры віншаванні ўказвайце прозвішча, імя, імя па бацьку таго, каго трэба павіншаваць.*

ЗАБАЎНАЕ

# МАНАРХ, ГЕНСЕК І ПРЭЗІДЭНТ

## любілі аўто, але кожны па-свойму

***Былы кіраўнік прэзідэнцкай службы бяспекі Аляксандр КАРЖАКОЎ:***

— У 28 гадоў Ельцын ужо быў начальнікам, якому належала персанальная машына. З таго часу шэфу не трэба было садзіцца за руль. Знаходзячыся ў службовай машыне, ён за рухам не сачыў: чытаў, думаў ці размаўляў са спадарожнікамі. Навыкі ваджэння зніклі бясследна. А цяга да руля засталася. Барыс Мікалаевіч страсна марыў пра ўласную машыну.

Першай асабістай машынай Ельцына ў Маскве стаў «Масквіч». Адстаяўшы некалькі месяцаў у чарзе ў Дзяржбудзе, ён нарэшце атрымаў запаветную паштоўку на куплю аўтамабіля. У магазіне на Паўднёвапартовай вуліцы яму падабралі самую дэфіцытную па тым часе афарбоўку з казачнай назвай «снежная каралева». На самай справе гэта была звычайная савецкая машына колеру алюмінію.

У сям'і Барыса Мікалаевіча доўга спрачаліся, на чыё імя аформіць пакупку: ці на зяцёў, ці на некага з дачок.

— Не, толькі на мяне, — спыніў спрэчкі галава сямейства.

Яму вельмі хацелася стаць паўнапраўным уласнікам «каралевы». Пасля афармлення дакументаў Барыс Мікалаевіч заўсёды пры выпадку падкрэсліваў:

— Гэта мая машына.

Аднойчы ён вырашыў на ёй праехацца. Сеў за руль, а мне прапанаваў месца побач з вадзіцельскім. Я асуджана залез у «Масквіч».

З месца машына рэзка скокнула, як кенгуру. З маленнем у вачах я пагледзеў на Барыса Мікалаевіча, але ён атрымліваў асалоду ад уласнай язды. Цела маё амаль адразу здранцвела ад напружання, і я рыхтаваўся ў любую секунду тузануць за «ручнік». У той момант мяне апанавалі сумненні: а ці атрымаў калі-небудзь Барыс Мікалаевіч правы на ваджэнне машыны? У ДАІ, як належыць. Бо нейк ён папрасіў мяне аднаясь быццам бы згубленыя правы. Але я пажартаваў:

— Барыс Мікалаевіч! Вашы правы — на вашым твары.

Цяпер мне было не да жартаў. Ельцын жа не заўважаў ні маёй нервовасці, ні іншых машын на дарозе і горда расказваў, як у маладосці вадзіў грузавік, а потым з сям'ёй на «Пабедзе» ганяў адпачываць на поўдзень. Я ківаў, але на чарговым павароце заўважаў, што Барыс Мікалаевіч зноў пераблытаў педалі.

Да гэтага «Масквіча» шэф спрабаваў ездзіць на маёй «Ніве». Каталіся за горадам, па прасёлачнай дарозе. Ён адчайна ціснуў на газ, і мы на кожным ярку біліся галавой аб столь.

Я баяўся за пазваночнік Барыса Мікалаевіча — яго траўміраваная спіна магла не вытрымаць каскадзёрскай язды. Выехаўшы на шашу, ён пераблытаў педалі і ўрэзаўся ў паласатую металічную агароджу. Дзякуй Богу, ні ДАІ, ні староннiх машын побач не было. Я перасеў за руль, і мы без прыгод са скурочаным правым крылом дабраліся да Масквы. Пасля гэтага эпізоду Барыс Мікалаевіч больш не прасіў паруліць на «Ніве», але затое цвёрда вырашыў мець уласную машыну. Сваю хоць не сорамна разбіць.

Два разы Ельцын выязджаў з Крамля на «снежнай каралеве»: першы раз — ад Вялікага Крамлёўскага палаца, а потым — з Васільеўскага спуску. У мяне пасля гэтага сівыя валасы з'явіліся. Але пакольні яны амаль адразу ж выпадаюць, дык нашы сумесныя аўтапрагулкі проста павялічылі памер маёй лысіны.

У час язды нас страхавалі мае даўнія сябры.

Адзін на «Ніве» ехаў справа і крыху далей ад «Масквіча», другі на «Жыгулях» — злева. Так мы вызвалялі для Барыса Мікалаевіча адразу два рады. Іншая задача была цяжэйшая: трэба было знайсці маршрут без паваротаў. Інакш вадзіцель блытаў педалі, і машына паводзіла сябе непрадказальна.

Калі Барыс Мікалаевіч пераехаў у Крэмль, дык палічыў, што на «Масквічы» ўжо ездзіць несалідна. Тады Барсукоў набыў джып «Субару» на той выпадак, калі прэзідэнту раптам захочацца пакатацца за горадам, у бясспечным для навакольных месцы.

Выбар менавіта гэтага джыпа быў не выпадковы. Ельцын хацеў сучасную замежную машыну, магутную і прыгожую. У той час аўтасалоны ў Маскве былі рэдкасцю, таму супрацоўнікі абзванілі знаёмых, сваякоў, калег, і папрасілі ўсіх, у каго ёсць джыпы, прыехаць у Крэмль.

Гаспадары вылізалі машыны да бляску. Прэзідэнт агледзеў кожны джып. Ён залазіў у салон, абмацваў руль і спрабаваў зручнасць машыны з месца. Прадбачачы гэта, я даў указанне спецыяльна паставіць джыпы ў рад, шчыльна адзін да аднаго і капотамі да будынка.

Хутчэй за ўсіх агледзеўшы «экспанаты» незвычайнага аўтасалона, я замёр ля «Субару». Пасядзеў у кабіне і зразумеў: менавіта гэтую мадэль выбера прэзідэнт. У джыпа наперадзе шырокае сядзенне, якое нагадвае «Волгу»-ГАЗ-21. У салоне прасторна, можна ногі выцягнуць. І што немалаважна — толькі дзве педалі: газ і тормаз. Перабльтаць цяжка.

«Субару» стаяў апошнім у радзе. Ельцын сеў у яго і сказаў:

— Гэта мой.

Агляд скончыўся, усе раз'ехаліся, а я папрасіў уладальніка «Субару» дазволу праехаць на джыпе. Зрабіў круг па Крамлі, потым за варотамі праехаўся. Было прыемна ад таго, што вялізная машына лёгка і проста падпарадкоўваецца вадзіцелю.

Стаўшы гаспадаром джыпа, Барыс Мікалаевіч зноў захацеў самастойна катацца. Калі з адсутнічаў на дачы ў Барвісе, ён прымушаў вадзіцеляў выганяць «Субару» з гаража, з важным выглядам садзіўся за руль і ездзіў па тэрыторыі. Іншы раз прапаноўваў выехаць за вароты на шашу, але супрацоўнікі Службы бяспекі былі строга праінструктаваныя і ніколі прэзідэнту гэтага не дазвалялі.

**Ірына ПЕТРАКОВА, уласны карэспандэнт «Звязды» ў Маскве.**

**Заканчэнне. Пачатак у № 117.**

XVI ЧЭМПІЯНАТ СВЕТУ ПА ФУТБОЛУ

# ФРАНЦЫЯ ПРЫМАЕ ФУТБОЛЬНЫ БАМОНД

**Заўтра ў Францыі стартуе XVI чэмпіянат свету па футболу. Пасля доўгіх месяцаў падрыхтоўчых работ 10 стадыёнаў гэтай краіны гатовы да правядзення матчаў. Гэта футбольныя арэны ў Бардо, Лансе, Ліёне, Марсэлі, Манпелье, Нанце, Сант-Эцьене, Тулузе, Парыжы і новы стадыён «Францыя» на 80 тысяч месцаў, адкрыты ў студзені гэтага года пад Парыжам у мястэчку Сен-Дэні.**

**Агульная сума расходаў на мадэрнізацыю і абнаўленне ўсіх арэн складае 1.345 мільярдаў франкаў. Гэты фінансавы «груз» падзялілі паміж сабой дзяржава і мясцовыя ўлады. Разавая ўмяшчальнасць усіх дзесяці стадыёнаў — 374.800 гледачоў. Больш за месяц (да 12 ліпеня) мільярды футбольных балельшчыкаў будуць уважліва сачыць за баталіямі, якія пройдуць на французскай зямлі.**

**Айчынным аматарам гульні ў мяч мы прапануем дакладны расклад з указаннем даты і месца правядзення гульняў і беларускі час усіх 64 тэлетрансляцый:**



Малюнак Марыны ГАРЭЛАВАЙ.

### ГРУПА А

**1. Бразілія 2. Шатландыя 3. Марока 4. Нарвегія**

**10.06.** Бразілія — Шатландыя; г. Парыж; **18.30**
**10.06.** Марока — Нарвегія; г. Манпелье; **22.00**
**16.06** Шатландыя — Нарвегія; г. Бардо; **22.30**
**16.06.** Бразілія — Марока; г.Нант; **22.00**
**23.06.** Шатландыя — Марока г. Сант-Эцьен; **22.00**
**23.06.** Бразілія — Нарвегія; г. Марсэль; **22.00**

### ГРУПА В

**1. Італія 2. Чылі 3. Камерун 4. Аўстрыя**

**11.06.** Італія — Чылі; г. Бардо; **18.30**
**11.06.** Камерун — Аўстрыя; г. Тулуза; **22.00**
**17.06.** Чылі — Аўстрыя; г. Сант-Эцьен; **18.30**
**17.06.** Італія — Камерун; г. Манпелье; **22.00**
**23.06.** Італія — Аўстрыя; г. Парыж; **17.00**
**23.06.98** г. Чылі — Камерун; г. Нант; **16.00**

### ГРУПА С

**1. Францыя 2. ПАР 3. Сауд. Аравія 4. Данія**

**12.06.** Саудаўская Аравія — Данія; г. Ленц; **18.30**
**12.06.** Францыя — ПАР; г.Марсэль; **22.00**
**18.06.** ПАР — Данія; г. Тулуза; **18.30**
**18.06.** Францыя — Сауд. Аравія; г. Парыж; **22.00**
**24.06.** Францыя — Данія; г. Ліён; **17.00**
**24.06.** ПАР — Саудаўская Аравія; г. Бардо; **17.00**

### ГРУПА D

**1. Іспанія 2. Нігерыя 3. Парагвай 4. Балгарыя**

**12.06.** Парагвай — Балгарыя; г. Манпелье; **15.30**
**13.06.** Іспанія — Нігерыя; г. Нант; **15.30**
**19.06.** Нігерыя — Балгарыя; г. Парыж; **18.30**
**19.06.** Іспанія — Парагвай; г. Сант-Эцьен; **22.00**
**24.06.** Іспанія — Балгарыя; г. Ленц; **22.00**
**24.06.** Нігерыя — Парагвай; г. Тулуза; **22.00**

### ГРУПА Е

**1. Галандыя 2. Бельгія 3. Паўдн. Карэя 4. Мексіка**

**13.06.** Паўдн. Карэя — Мексіка; г. Ліён; **18.30**
**13.06.** Галандыя — Бельгія; г. Парыж; **22.00**
**20.06.** Бельгія — Мексіка; г. Бардо; **15.30**
**20.06.** Галандыя — Паўдн. Карэя; г. Марсэль; **22.00**
**25.06.** Галандыя — Мексіка; г. Сант-Эцьен; **17.00**
**25.06.** Бельгія — Паўдн. Карэя; г. Парыж, **17.00**

### ГРУПА F

**1. Германія 2. ЗША 3. Югаславія 4. Іран**

**14.06.** Югаславія — Іран; г. Сант-Эцьен; **15.30**
**15.06.** Германія — ЗША; г. Парыж; **22.00**
**21.06.** Германія — Югаславія; г. Ленц; **18.30**
**21.06.** ЗША — Іран; г. Ліён; **22.00**
**25.06.** Германія — Іран; г. Манпелье; **22.00**
**25.06.** ЗША — Югаславія; г. Нант; **22.00**

### ГРУПА G

**1. Румынія 2. Калумбія 3. Англія 4. Туніс**

**15.06.** Англія — Туніс; г. Марсэль; **15.30**
**15.06.** Румынія — Калумбія; г. Ліён; **18.30**
**22.06.** Калумбія — Туніс; г. Манпелье; **18.30**
**22.06.** Румынія — Англія; г. Тулуза; **22.00**
**25.06.** Румынія — Туніс; г. Парыж; **22.00**
**25.06.** Калумбія — Англія; г. Ленц; **22.00**

### ГРУПА Н

**1. Аргенціна 2. Японія 3. Ямайка 4. Харватыя**

**14.06.** Аргенціна — Японія; г. Тулуза; **18.30**
**14.06.** Ямайка — Харватыя; г. Нант; **18.30**
**20.06.** Японія — Харватыя; г. Нант **18.30**
**21.06.** Аргенціна — Ямайка; г. Парыж; **15.30**
**26.06.** Аргенціна — Харватыя; г. Бардо; **17.00**
**26.06.** Японія — Ямайка; г. Ліён; **17.00**

### 1/8 ФІНАЛУ

1) **27.06.** 1-е месца групы А — 2-е месца групы В; г. Парыж; **22.00**
2) **27.06.** 1-е месца групы В — 2 е- месца гр. А; Марсэль; 17.30
3) **28.06.** 1-е месца групы D — 2-е месца групы С; г. Парыж; 22.00
4) **28.06.** 1-е месца групы С — 2 месца групы D; г. Ленц; 17.30
5) **29.06.** 1-е месца групы F — 2-е месца групы Е; г. Манпелье; 17.30
6) **29.06.** 1-е месца групы Е — 2-е месца групы F; г. Тулуза; 22.00
7) **30.06.** 1-е месца групы Н — 2-е месца групы G; г. Эцьен; 22.00
8) **30.06.** 1-е месца групы G — 2-е месца групы Н; г. Бардо; 17.30

### 1/4 ФІНАЛУ

**03.07.** пераможца 2 — Пераможца 4; г. Парыж; 17.30
10) **03.07.** пераможца 1 — пераможца 3; г. Нант; 22.00
11) **04.07.** пераможца 5 — пераможца 8; г. Ліён; 22.00
12) **04.07.** пераможца 6 — пераможца 7; г. Марсэль; 17.30

### 1/2 ФІНАЛУ

13) **07.07.** пераможца 10 — пераможца 12; г. Марсэль; 22.00
14. **08.07.** пераможца 9 — пераможца 11; г. Парыж; 22.00

### МАТЧ ЗА 3-Е МЕСЦА

**11.07.** прайграўшы 13 — прайграўшы 14; г. Парыж; 22.00

### ФІНАЛ

**12.07.** пераможца 13 — пераможца 14; г. Парыж; 22.00

# САМЫ ВЯДОМЫ САВЕЦКІ «ТРАКТАРЫСТ» НАРАДЗІЎСЯ НА ШКЛОЎШЧЫНЕ

**Знакаміты акцёр Пётр Алейнікаў нарадзіўся ў вёсцы Крывель Шклоўскага раёна.**

На радзіме ён жыў толькі да 14 гадоў. Пакольні сям'я была шматдзетная, хлопчык пачаў бадзяжнічаць, качаваў, нават нейкі час знаходзіўся ў дзіцячай калоніі (так тады называліся спецыялізаваныя дзіцячыя дамы для беспрытульнікаў).

На платформе таварнага поезда Алейнікаў прыехаў у Ленінград — менавіта гэты горад стаў своеасаблівым паваротным пунктам у яго ным лёсе, адкуль пачаўся вялікі акцёр Пётр Алейнікаў. Ён зняўся больш чым у 40 фільмах, сярод якіх такія, як «Трактарысты» (памятаеце, там вясёлы вясковы хлопец распявае: «Здравствуй, милая моя, я тебя дождался, ты пришла, но не одна, а я растерялся»), «Сямёра смелых», «Вялікае жыццё», «Глінка» (цудоўная роля Пушкіна).

Восенню мінулага года на фундаменце хаты, дзе нарадзіўся Алейнікаў, пачалося будаўніцтва музея, адна частка экспазіцыі якога будзе прысвечана этнаграфіі вёскі, астатняе зоймуць успаміны пра акцёра. Дзякуючы намаганням работнікаў аддзела культуры Шклоўскага райвыканкама ўдалося скласці неблагую калекцыю фотаздымкаў, фільмаў. Звязаліся з сынам Алейнікава Тарасам Пятровічам, які зараз жыве ў Маскве. Сувязь з дачкой наладзіць пакуль не ўдалося, пакольні Арына Пятроўна знаходзіцца ў ЗША. У вёсцы засталіся родныя Алейнікава, якія вельмі дапамаглі ў стварэнні дома-музея.

Як стала вядома карэспандэнту «Звязды», пакуль праца яшчэ не завершана, але ў хуткім часе ўсе жадаючыя атрымаюць магчымасць азнаёміцца з экспазіцыяй, паблукаць па сцяжынках, па якіх хадзіў наш знакаміты зямляк.

**Мікалай ЛІТВІНАЎ.**

# Старонка Паўла Глобы

**10 чэрвеня, серада**

**РЭКАМЕНДАЦЫІ.** Абдумайце свой жыццёвы шлях, менавіта сёння можна рэзка ўсё змяніць. Можна пераходзіць на новую работу, ажыццяўляць даўно задуманыя планы, рабіць паездкі. Не праводзьце шмат часу ў памяшканні, старайцеся быць больш на свежым паветры. Добрыя шматлікія кантакты, абмен інфармацыяй. Не праяўляйце злосці, зайздрасці і агрэсіўнасці — гэта прыводзіць да парушэння раўнавагі паміж астральным і фізічным целамі, а значыць да хвароб. Карысныя лазні, сауна, можна стрыгчы валасы, абразаць пазногці.

**МЕДЫЦЫНА.** Можна лячыць хваробы бронхаў і лёгкіх. Забаронены донарскія працэдуры, любыя ўздзеянні на печань, падстраўнікавую залозу. Слабыя бёдры.

**Падрыхтавана да друку спецыяльна для «Звязда» астралагічным цэнтрам «АРБА».**

# ШАХМАТЫ

*Пад рэдакцыяй майстра спорту Уладзіміра СЫЧОВА*

**ГАДАВЫ КОНКУРС РАШЭННЯЎ**

**Заданне № 21**

**Л. Уланаў** *(Рыга)*



**Белыя**: Кра8, Фf5, Лh1, Cf1, Cf2, Kb2, Kb3; пп: e5, f6 (9). **Чорныя**: Kpd5, Лc2; пп: c7, e4 (4). **Мат за два хады.**

**Заданне № 22**

**С. Езерт і Г. Рэм** *(Германія)*



**Белыя:** Kph7, Лb5, Ca7, Ch3, Kf2, Kg6 (6). **Чорныя:** Kpg5, Ла4, Лb3, Cc2; пп: b4, c7, f3, f5, f6, g7, h5 (11). **Мат за 4 хады.**

**ПРАВЕРЦЕ РАШЭННІ**

Прыводзім рашэнні конкурсных заданняў, якія былі апублікаваны ў газеце ў сакавіку і красавіку г. г.

**№ 11.** 1. Kpc1!

**№ 12.** 1. Фb8! 1... Ca7 2. b4+; 1... b4 2. Kf5; 1... Cc7 2. Ф:b5+.

**№ 13.** 1. Фe1!

**№ 14.** 1. Cg6! Kpf6 2. Фb6+; 1... Kpd7 2. Фc5.

**№ 15.** 1. Фg8!

**№ 16.** 1. Kpd8! d6 2. C:d6; 1... d5 2. Лd4.

Адказы на заданні прыслалі: Л. Ахрэм (Мінск), В. Лук'янчык (Талачынскі раён), Я. Паноў (Мінск), А. Кіслы (Узда), А. Сямчонак (Полацк), К. Пузевіч (Пухавіцкі раён), С. Сіляўкін (Мінск), Ф. Рашэцкі і І. Цялятнікаў (Рагачоў), І. Козел (Мазырскі раён), В. Каваленка (Лепельскі раён), А. Літвінаў (Мінск), Ю. Галубовіч (Клецкі раён) і іншыя.

**ДА ЎВАГІ СКЛАДАЛЬНІКАЎ**

Паведамляем адрасы папулярных часопісаў, на якія можна дасылаць арыгінальныя кампазіцыі.

**«Diagrammes»** *(Францыя)*

#2—Claude Wiedenhoff, 22, rue Schlittweg, 67700 Ottersthal Saverne, France.

#3, #n — Oliver Schmitt, 174, avenue Fracois Nardi — 83000 Toulon.

Эцюды — 7 St. James Road, Harpenden, GB-Herts AL5 4NX, England.

H#, S# — Vyes Tallec, 23, rue Fantin-Latour — 75016 Paris.

**«Probleemblad»** *(Галандыя)*

#2, 3, n — Piet le Grand, Spiegelstaat 87, 7552 MZ Hengelo, Nederland.

H#, рэтра — Peter van den Heuvel, Matenweg 4 — 106, 7522 LG Enschede

**«Phenix»** *(Францыя)*

#2 — Jacgues Savournin, 10 avenue Masse'na, 78600 Maisons-Laffitte, France.

#3, n — Gaven Vaconbian, 75 impasse de la Rape, 74100 Vatraz-Monthoux.

Эцюды — Daniel Capron, 32 Rue du Javelot, Appartement 210, 75013 Paris.

**ЗАСНАВАЛЬНІКІ:**
Савет Рэспублікі Нацыянальнага сходу Рэспублікі Беларусь,
Палата прадстаўнікоў Нацыянальнага сходу Рэспублікі Беларусь,
Савет Міністраў Рэспублікі Беларусь

Галоўны рэдактар У. НАРКЕВІЧ.

Рэдакцыйная калегія: У. АНДРЫЕВІЧ (намеснік галоўнага рэдактара), І. БАРАНОЎСКІ, У. ГОЙТАН, Л. ЛАХМАНЕНКА, М. МІХАЕВІЧ (першы намеснік галоўнага рэдактара), А. МЯСНІКОЎ, Л. РЫЖАНКОВА (намеснік галоўнага рэдактара), С. ШАЎЦОЎ.

Рэгістрацыйны нумар 1.

*НАШ АДРАС: 220013, гор. Мінск, вуліца Б. Хмяльніцкага, 10-а, рэдакцыя газеты «Звязда».*
*ТЭЛЕФОНЫ: прыёмнай — 68-29-19; намеснікаў галоўнага рэдактара — 32-44-12, 32-14-25, 32-35-05; аддзелаў: інфармацыйна-аналітычнага — 32-38-02, 68-28-14, 68-29-68, эканомікі — 32-31-21, 68-29-68, палітыкі — 68-28-69, 68-27-57, 68-28-64, культуры — 68-29-42, 68-28-27, пісьмаў — 68-27-47, маралі і права — 68-28-51, міжнацыянальных адносінаў — 68-27-40, 68-28-69, журналісцкіх расследаванняў — 68-28-38, 68-28-72, знешнеэканамічнай дзейнасці — 68-29-44; аглядальнікаў па праблемах: навукі і адукацыі — 68-28-31, экалогіі і ліквідацыі вынікаў Чарнобыля — 68-28-36; уласных карэспандэнтаў: у Гродне — 33-25-29, Гомелі — 53-13-92, Баранавічах — 7-26-02, Магілёве —31-13-75, Паставах — 26-562; бухгалтэрыі — 32-22-03; даведкі па рэкламе і аб'явах — 32-04-52, 32-31-98.*
*ФАКС: 68-27-79. E-mail: daily@zwyazda.belpak.minsk.by*

Аўтары апублікаваных матэрыялаў нясуць адказнасць за падбор і дакладнасць фактаў. Іх меркаванні не заўсёды супадаюць з меркаваннем рэдакцыі. Рэдакцыя пакідае за сабой права не ўступаць у перапіску з чытачамі. Матэрыялы, пазначаныя значком носяць рэкламны характар. Адказнасць за змест рэкламы нясуць рэкламадаўцы.

Друкарня выдавецтва «Беларускі Дом друку». Мінск, праспект Ф. Скарыны, 79.
Тыраж 85.556. Індэкс 63850.
Зак. № 3489.
Выходзіць 250 разоў на год.
Нумар падпісаны ў 20.15.
М 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12
П 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12